ДЫЯЛОГІ





## Міхась СКОБЛА – Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

# 100-гадовы юбілей Беларускай Народнай Рэспублікі – усенароднае свята

### І яно павінна было б адзначацца на дзяржаўным узроўні

Праз чатыры дні – 25 сакавіка – 100-гадовы юбілей Беларускай Народнай Рэспублікі. Чаму ён так і не стаў дзяржаўным святам? З-за чаго ўзнікла разыходжанне меркаванняў у грамадскім юбілейным аргкамітэце? Ці стымулюе палітычная дзейнасць мастацкую творчасць? Госць рубрыкі "Дыялогі" – пісьменнік, кіраўнік руху "За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі" Уладзімір Някляеў.

### «БНР – гэта пытанне не мінуўшчыны, а будучыні»

**– Уладзімір Пракопавіч, перад 100-гадовым юбілеем БНР улада нечакана пайшла насустрач апазіцыі. У Купалаўскім скверы за дзяржаўны кошт усталяваны мемарыяльны знак "бацькам БНР" Антону і Івану Луцкевічам. У Дзяржаўным гістарычным музеі экспануецца выстава "100-годдзе БНР: ад краёвасці да дзяржаўнасці". Каля Тэатра оперы і балета 25 сакавіка дазволены мітынг з выкарыстаннем нацыянальнай сімволікі... Што здарылася, чаму адбыўся такі рэзкі паварот?**

– Не бачыць, тупа не разумець, як гэта доўжылася 100 гадоў з невялічкай на пачатку 1990-х пярэрвай, што Беларускую Народную Рэспубліку лепш мець у гісторыі краіны, чым не мець, у цяперашняй палітыка-эканамічнай сітуацыі проста не выпадае. Вось праз гэта і паварот. Але, як і ўсе дзеянні цяперашняй улады, надта ўжо хітры. Нібыта і вуліца названа, на якую можна павярнуць, але перад ёй знак вісіць: няма павароту! І калі што, дык можна будзе сказаць: вы знак не заўважылі. Што да руху насустрач, дык, пайшоўшы напярэдадні 100-годдзя БНР, як ты кажаш, "насустрач апазіцыі", улада пайшла не зусім туды, куды трэба. Яна мусіла пайсці насустрач беларускаму народу, насустрач краіне і адзначыць 100-гадовы юбілей БНР як дзяржаўнае свята. Дык жа не адбылося такога. Чутно толькі: "Мы дазваляем вам адзначыць". Хто – мы? Каму – вам? Хіба 100-годдзе БНР – свята апазіцыі? Хіба не народнае свята? Хіба не нагода на дзяржаўным узроўні сцвердзіць ідэю незалежнасці, закладзеную ў БНР? Улада па сутнасці адмежавалася ад свята. І разам з ёй адмежаваліся не толькі дзяржаўныя, але і як бы недзяржаўныя інстытуты. Беларуская праваслаўная царква заявіла, што не плануе адзначаць 100-годдзе БНР. Ні зваротамі, ні служэннямі, ні малебнамі – ніяк. Чаму? Не саспеў для незалежнасці беларускі народ? Памёр беларускі Бог? Не. Таму што – РПЦ, Масква, Крэмль... Усё азіраемся, баімся… Дык колькі ж будзем азірацца? БНР – гэта пытанне не мінуўшчыны, а будучыні. Чым глыбей падмурак гісторыі, тым вышэй і магутней сцены Беларускага Дома, які мы ўзводзім.

**– А ці магчымы такі варыянт: улада проста рыхтуецца да зачысткі, як у 1920-я гады. Тады таксама далі падняць галовы ўсім "нацыяналам", а потым каму тыя галовы пасцінalі, а каго адправілі ў высылку, у ГУЛАГ, каб працвераzelі.**

– Хацелася б сказаць, што такое немагчыма. Але немагчымым здавалася і тое, што адбылося 19 снежня 2010 года. Ці летась – 25 сакавіка. Так што нашы ўяўленні пра магчымае і немагчымае ў адносінах народа і ўлады не супадаюць з уяўленнямі апошняй. Калі ж уявіць, што такое магчыма, дык тады паўстае пытанне: каго "зачышчаць"? У 1920-я гады быў нацыянальны ўздым. Віраваў нацыянальна-дэмакратычны рух. Лунаў беларускі дух – яго і "зачышчалі"! А сёння дзе той нацыянальны дух? З ім улада за чвэрць стагоддзя паспяхова справілася. Так што на святкаванні 100-годдзя БНР можа і перадыхнуць.

### «Калі б сябры аргкамітэта дзейнічалі салідарна і годна, мы мелі б у юбілейны Дзень Волі і шэсце, і канцэрт, і мітынг»

**– 25 сакавіка рыхтуецца вялікі мітынг і святочны канцэрт ля Опернага тэатра. І, падобна, грамадства гэтага хоча, стаміўшыся ад шэсцяў, якія нікуды не вядуць, хіба пад міліцэйскія дручкі. Але вы з Мікалаем Статкевічам, як выглядае, усё ж хочаце такое шэсце зладзіць. Патлумачце: дзеля чаго?**

– Я вельмі добра, нібы гэта было ўчора, памятаю 25 сакавіка 1993 года. Дзень Волі, 75-годдзе БНР. Тады таксама на сцэне спявалі, каля сцэны танцавалі, за сцэнай прадавалі і куплялі сувеніры, але запомнілася, як свята, шэсце. Тая энергія, тая сіла, той рух, тая бел-чырвона-белая вольная плынь, якой, здавалася, не будзе спыну, якая цякла і цякла па Мінску, па ўсёй Беларусі. І было высокае, якое проста захлынала душу, адчуванне Волі. І Воляй дыхалася, як вясновым паветрам. Папярэдзе была ідэя, а не тое, што яе абрамляла. І праз 25 гадоў усе (падкрэсліваю: усе!) сябры аргкамітэта па святкаванні 100-годдзя БНР прагаласавалі за гэткі ж фармат святкавання юбілейнага Дня Волі, падаўшы адпаведную заяўку ў Мінгарвыканкам. Дамовіліся настойваць на шэсці і канцэрце і ні ў чым не саступаць. Галасаваннем абралі людзей, якім даручылі перамовы з уладай. Паціснулі адзін аднаму рукі – і адразу ж пасля гэтага адны за спінамі другіх збегалі ў Мінгарвыканкам, прынялі прапанову ўлады адмовіцца ад шэсця ўзамен на канцэрт. Некаторыя пасля тэлефанавалі (намеснік старшыні Партыі БНФ Янукевіч нават у эфіры "Еўрарадыё" са мной спрачаўся): вось вы звінавачваеце нас у подласці, здрадзе, але гэта аптымальнае, найбольш мэтазгоднае рашэнне. Я адказваў, што яно магло быць такім, калі б нехта з вас перад тым паведаміў: "Мы перадумалі, у нас іншая пазіцыя. Мы ідзём дамаўляцца без вас". Калі ласка! Дык не: спачатку ўпотай збегалі (бо ўлада паклікала: "Вы лепшыя за тых"), а пасля ўжо загаварылі пра мэтазгоднасць.

**– А хіба вы ўпершыню ў палітыцы сутыкаецеся з падобным?**

– Не ўпершыню. І заўсёды ў апазіцыйным асяродку гэта апраўдваецца нейкай палітычнай логікай. Пра маральны чыннік ніхто ўжо і не кажа, ён як бы і не заўважаецца. Але не ўсімі. Вось журналіст Сяргей Навумчык тактоўна нагадаў журналісту Юрыю Зісеру, што цяперашні аргкамітэт (які шмат каму не даспадобы), як і ранейшыя аргкамітэты, не складаецца цалкам з людзей, "поўных нянавісці". Сябрамі аргкамітэта па святкаванні 75-годдзя БНР былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч... Давайце ўявім, што Быкаў з Барадуліным і Гілевічам дамовіліся, па-мужчынску паціснуўшы рукі, пра нешта адно, а потым нехта з іх, напрыклад, Гілевіч за іх спінай дамовіўся пра іншае. Ну, дапусцім, пра той жа канцэрт, бо на канцэрце песні ягоныя спяваць будуць, і ён ганарар за гэта займее. І хто пасля гэтага паціснуў бы пададзеную ім руку?.. А цяпер і пацалаваць могуць. Сяброў ранейшага аргкамітэта ў падобнай сітуацыі немагчыма ўявіць. А цяперашняга – магчыма. Вось у чым праблема, а не ў канцэрце ці шэсці, на якім я асабіста (з улікам варункаў, якія скланіся ў краіне і вакол яе) асабліва і не настойваў. У перамовах з аргкамітэтам улада была ў слабой пазіцыі. У сказе *"Дазволіць нельга забараніць"* паставіць коску пасля слова *нельга* яна проста не магла. Таму пачаліся павароты і перамовы. І калі б сябры аргкамітэта дзейнічалі салідарна і годна, мы б мелі ў юбілейны Дзень Волі і шэсце, і канцэрт, і мітынг. А так маем, што маем. І няхай сабе праз збег абставін, але цяпер ужо здаецца, што і не выпадкова, Міхалок з Кулінковічам і Вольскі з Вайцюшкевічам у канцэрце ўдзелу не бяруць. Зразумела, што далей прысутнічаць на пасяджэннях аргкамітэта мэтазгоднасці я не бачыў.

### «Паэзія трохі параўнавала, а пасля рукой махнула: «Няхай пагуляе з палітыкай!»

**– Думаю, вам неаднаразова даводзілася чуць: кідайце вы гэтую палітыку, займайцеся літаратурай, вам Бог даў талент і г.д. Калі пра гэта кажацца ў маёй прысутнасці, то я пярэчу: актыўная палітычная дзейнасць не перашкаджае Някляеву пісаць. І сапраўды, прыйшоўшы ў палітыку, за гадоў пятнаццаць вы напісалі больш, чым за ўсё ранейшае жыццё. Як выглядае, для вас палітыка – гэткі стымулятар творчасці. Ці я не маю рацыі?**

– Збольшага пра тое, як бачыцца мне палітыка, я ўжо распавёў у адказе на папярэдняе пытанне. Перапрашаюся, што даўгавата, гэта для мяне балючая тэма. А ці ёсць палітыка стымулятарам творчасці? Пра гэта не задумваўся, але – наўрад ці. Вось цяпер палітыкай займаюся меней (як бы гэта ўвогуле перастаць ёю займацца?) – і пішу болей. Проста таму, што болей часу маю на тое, каб пісаць. Пішу пераважна прозу, і гэта, бадай, адзінае, на што істотна ў творчасці паўплывала палітыка. Раней аддаваў перавагу паэзіі. Зрэшты, проза, можа быць, бярэ сваё ў звязку з узростам, а зусім не ў звязку з палітыкай. Але на энергетычных усплёсках, у стане, які называецца натхненнем, усё адно першай гукаецца паэзія. Мяне палохалі (прычым не толькі староннія людзі, але і сябры – Барадулін і Бураўкін), ды і сам я баяўся, што паэзія, як дама раўнівая, праз мае заляцанні з палітыкай мяне пакіне. Але, дзякуй Богу, не пакінула. Трохі параўнавала, а пасля як бы рукой махнула: "Няхай пагуляе!" Маўляў, куда падзенецца, вернецца. Дык вось, сёння якраз перыяд вяртання. Складаны перыяд. Любы раман куды прасцей закруціць, чым з яго выкруціцца.

**– Апошнім часам даволі рэгулярна выходзяць вашы кнігі – то прозы, то паэзіі. Вось і нядаўна выйшла кніга апавяданняў і прыпавесцяў "На ўсякім свеце". Беларускі кніжны рынак даволі своеасаблівы… А ці маглі б вы наўслед за Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам паўтарыць: "Шчырая Беларусь шалёна патрабуе маіх кніг"?**

– Дуніна-Марцінкевіча я цытаваў нават у нашым "самым справядлівым" судзе ў траўні 2011 года: "Расследавав дзела саабразна ўказу всеміласцівейшага гасудара марта 69 дня, свідзецелям, каторыя не відзелі дракі за тое, што не відзелі, а цем самым не маглі разняць дзерушчыхся, назначаецца па 5 лоз на дыване і па 5 рублёў штрафу ў пользу врэменнага прысутствія!" Але слоў "шчырая Беларусь шалёна патрабуе маіх кніг" – не паўтару. Ёсць у Дуніна-Марцінкевіча і другія цікавыя выказванні: "Бараніць родны край – гэта рыцараў справа!" Ці: "Асцярожна, каб веліч былога не сцерці!" Чым не слоганы да 100-годдзя БНР? Калісьці кнігі прозы і паэзіі насамрэч шалёна патрабаваліся, мелі вялізныя наклады. Рускамоўныя – само сабой, але і беларускамоўныя налічвалі тысячы. Скажам, мая апошняя ў XX стагоддзі кніга паэзіі "Прошча" выйшла накладам 5000 асобнікаў. Мінулагодняя – "Толькі вершы" – мела ў дзесяць разоў меншы наклад. Дык якое тут шаленства? Раман "Лабух", праўда, выйшаў амаль масавым накладам. Мне выдавец кажа: "Давай яшчэ што-небудзь такое!" Але "што-небудзь такое" аднойчы ў жыцці пішуць. І, дарэчы, зусім не пра тое ў той кнізе напісана, пра што большасць у ёй прачытала. Так часцяком здараецца. Зусім "не тое" прачыталі крытыкі ў маёй драме "Армагедон". А я шалеў, калі яе пісаў! І вось гэтае шаленства, у якім засынаеш толькі тады, калі звальваешся ад стомы пад пісьмовы стол, і бачыш у сне, што ўжо прачнуўся і пішаш працяг, вартае ўсяго астатняга, ад чаго ў гэтым свеце, у гэтым жыцці можна шалець. І менавіта шаленства гэтае – найпершы (як для мяне) стымулятар творчасці.

### «Для Айчыны мёртвых няма – і ў мёртвых ёсць Айчына»

**– У прыпавесці "На ўсякім свеце", якая і дала назву ўсёй кнізе, няма мяжы паміж гэтым і тым светам. Гэты твор я параўнаў бы са знакамітай "Ладдзёй роспачы" Уладзіміра Караткевіча – і там, і там дзеянне адбываецца ў інфернальным свеце, гаворка ідзе пра смерць, але абедзве гэтыя прыпавесці надзвычай жыццесцвярджальныя. І Купалава паэма "На Куццю" яшчэ ўспамінаецца. Дык, можа, таму для нас і свята Дзяды гэткае патрэбнае, бо патрэбна падтрымка продкаў?**

– Перакладчык Петэр Бараш, які шмат што з маёй прозы пераклаў на венгерскую мову, неяк назваў мяне антыдыскрэтчыкам. Ну, працiўнікам дробнага, разарванага, як сёння кажуць, кліпавага светаўспрымання. І так, бадай, ёсць. Мне бачыцца свет цэласным, час – непарыўным, жыццё – у розных ягоных выявах, нават у выяве смерці – бясконцым. Мяркую, з гэткага, цэласнага адчування свету і ўзнікла, перададзеная нам продкамі, традыцыя Дзядоў. Якраз у гэтым ключы і напісана прыпавесць "На ўсякім свеце", дзе тыя, хто жыў раней, і тыя, хто жыве цяпер, існуюць у адным часе і ў адной прасторы – у сваёй Айчыне. У яе высях і глыбінях, у крыві яе і памяці. Для Айчыны мёртвых няма – і ў мёртвых ёсць Айчына.

**– А другую вашу прыпавесць "Лапаціна" я хачу пакрытыкаваць – адкуль вы ўзялі гэткі старадаўні беларускі звычай: старога бацьку сын абавязаны забіць лапатай? Што за дзікунства? Пра падобнае не пісаў ніводзін этнограф.**

– Вось гэта ты дарма... Як Сямён Букчын пра раман "Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без". Маўляў, што гэта Някляеў напісаў? Такога ў Мінску не было. Ну дык ува мне было, калі не ў Мінску. І ўва мне, калі не ў Крэве, адбылося тое, што адбываецца ў прыпавесці "Лапаціна". Гэта мастацкі твор, а не дысертацыя па гісторыі ці этнаграфіі. Таму няма розніцы, ці быў гэткі старадаўні звычай (між іншым, быў, у часы паганства і не такое было), ці я прыдумаў гэтае "дзікунства". Карацей, я не супраць крытыкі, але дарэмна ты прыпавесць "Лапаціна" крытыкуеш. Па сюжэце, па канцэнтрацыі энергіі, якую ўдалося акумуляваць і – галоўнае – захаваць у тэксце, гэта ці не найлепшае, што я апошнім часам напісаў. Што там з чым сутыкаецца? Не бацька з сынам, як яно нібы ідзе па фабуле, а паганства з хрысціянствам. Бескаштоўнасць чалавечага жыцця, што было ў паганстве (згадай хоць бы скандынаўскія сагі), – з ягонай каштоўнасцю, прыўнесенай хрысціянствам. У найноўшай гісторыі, асабліва пасля Другой сусветнай вайны, каштоўнасць жыцця ў хрысціянскім свеце не падлягала сумневу, была прыярытэтнай. Але ў апошні час прыярытэты відавочна пачалі размывацца, зноў людзей пачалі заклікаць на смерць – нібыта за жыццё. Вось я і напісаў прыпавесць пра тое, што жыццё не ратуецца смерцю. Жыццё ратуецца жыццём.

### «Пры сустрэчы з Яўгенам Еўтушэнкам Лукашэнка шкадаваў пра наша разыходжанне, нават кашулю мне ў падарунак перадаў»

**– У вашай кнізе "Знакі прыпынку" я зачапіўся за гэткі запіс: "Аднойчы мы з Генадзем Бураўкіным разам прыйшлі да думкі, што зацятая канфрантацыя з уладай – не самае лепшае, а самае горшае з таго, што літаратары маглі зрабіць і зрабілі на шкоду беларушчыне". Вы сапраўды лічыце, што з уладай можна было дамовіцца пра лепшую долю тае самае беларушчыны?**

– Пытанне да гэтай пары застаецца для мяне адкрытым. Так, і Бураўкін, і я рабілі спробы паўплываць на цяперашнюю ўладу знутры. Генадзь дзеля гэтага нават на другасную (намеснік міністра культуры), зусім не ягонага ўзроўню пасаду згадзіўся. Віктар Ганчар, які быў тады віцэ-прэм'ерам, казаў яму пра перамовы з Лукашэнкам, пра перспектывы працы ў Міністэрстве культуры. Але перспектыўным палічылі іншага чалавека. Бураўкіна з ягоным характарам і прынцыпамі ўлада не прыняла. Калі б прыняла, нешта (прынамсі ў нацыянальнай культуры) магло быць іначай. Я не меў (і не хацеў мець) дзяржаўных пасад, але як паэт і старшыня Саюза пісьменнікаў (які тады яшчэ нешта значыў) меў пэўны ўплыў на ўладу. І з гэтым уплывам стаў змагацца – спачатку ў прэзідэнцкай Адміністрацыі, а пасля ва ўрадзе, заняўшы месца Ганчара, – Уладзімір Замяталін. Па дзейнасці і па сутнасці сваёй – беларусафоб, пра што я і сказаў адкрыта, выступаючы на слуханнях па культуры ў Вярхоўным Савеце. Тады віцэ-прэм'ер прыдумаў супраць старшыні Саюза пісьменнікаў крымінальную справу.

**– Дзе той Замяталін сёння?.. А тады яго паставіць на месца было немагчыма?**

– У выбары паміж паэтам Някляевым (нацыяналістам, як гаварыў, нібы жартуючы, Лукашэнка) і віцэ-прэм'ерам (беларусафобам) Замяталіным быў выбраны апошні. Так што ні ў Бураўкіна, ні ў мяне дамовіцца з уладай не выйшла. Не лёс. Праз шмат гадоў Яўген Еўтушэнка казаў мне, што пры сустрэчы з ім Лукашэнка шкадаваў пра гэта. Нават кашулю мне перадаў – нібы ў падарунак ад яго. Але чамусьці я думаю, што пра кашулю Еўтушэнка прыдумаў. Аддаў мне тую, якую Лукашэнка падараваў яму. Магчыма, калі б я тады пертрываў, не з'ехаў з Беларусі, дык можна было б сітуацыю выправіць, і такога здзеку, які быў учынены з беларускай мовай, культурай, не дапусціць. Тым больш ва ўладзе былі ў мяне не толькі ворагі, але і саюзнікі... Зрэшты, што цяпер пра гэта гаварыць. Жыццё не кашуля, яго не падмяніць. Як ёсць – так ёсць.

**– Дык ці носіце вы тую кашулю – ад Лукашэнкі?**

– Прыберагаю... на смерць (*смяецца*).

**– То хай яна вам яшчэ доўга не спатрэбіцца. У адным з вершаў вы паспрабавалі паэтычна вызначыць сутнасць нашага народа: "З неверагодных Гасподніх шчадрот / Скроены наш беларускі народ". Далей у вершы ідуць вобразы і метафары. А калі больш зразумелай прозай выказацца, то што бачыцца вам самым сутнасным у нашым народзе?**

– У нас столькі апошнім часам народазнаўцаў развялося, а ты ў мяне пра народную сутнасць пытаешся... Мы ўсё болей даведваемся пра свет, у якім жывём. Я маю на ўвазе вонкавы свет. І чым ён далей ад нас, у блізкім ці далёкім космасе, тым болей мы пра яго ведаем. А чым бліжэй тое, што імкнёмся спасцігнуць, тым яно невядомей. Тое самае і з народам – ажно да блізкай радні. Вось мой сусед Стась – як бы не Марс, а пра Марс я ведаю болей, чым пра Стася... Ну а ўжо наш унутраны свет, *што* мы ёсць і чаму мы такія, а не іншыя, – таямніца, якая з цягам часу яшчэ больш затаямнічваецца. І, зазіраючы ў гэту таямніцу, я кожны раз бяссільна жахаюся перад яе бяздоннем. І ці ўбачу калі ў тым бяздонні, ці ўцямлю тое сутнаснае, пра якое ты пытаешся, – не ведаю. Але чым даўжэй жыву, тым відавочней, што шанцаў на тое мала. Можна нават сказаць, што іх зусім няма. Таму застаецца толькі любіць таямніцу, якую не можаш спасцігнуць. І як для мяне, дык вось тое, што застаецца, любоў да радні, да людзей, да якіх ты належыш, якія называюцца тваім беларускім народам, самае сутнаснае і ёсць.

---

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Без глянца

## и пристрастия

Чтобы не впадать в экзальтацию и не стенать о старом Минске, который якобы разрушила бесчувственная советская власть, советую посетить выставку «Наш город Минск», которая открылась в галерее «Предместье». Ее кураторы собрали картины старых белорусских художников (многие из них уже почили в бозе) о той столице, которую большинство из нас не застало. Или не помнит за давностью лет. Например, даже я, минчанка из центра, давно выбросила из сознания район стадиона «Динамо», каким он был в конце 1960-х. Это было мое детство, мой район, но я уже почему-то не помню тех сарайчиков, гаражей, хозпостроек, весь этот серый задний двор, окружавший наш импозантный стадион. Всегда перед глазами только его визитная карточка – красивые высокие ворота «Динамо», которые мне, ребенку, казались тогда какими-то сказочными, уникальными. Конечно, нашему городу всегда не хватало архитектурной старины.

Но художнику Сергею Каткову не нужны были официальные "открыточные" виды столицы, он написал в 1968 году картину "Улица Кирова", как видел его честный глаз. И что же теперь открывается с его живописного полотна нам, потомкам? Буквально в нескольких сотнях метров от главного проспекта наша столица выглядела как обыкновенное провинциальное захолустье. Да, уже были построены главные здания центра, создан ансамбль проспекта Независимости (тогда проспекта Ленина), но отошел от него на триста метров в сторону – и оказался среди деревянных бараков, одноэтажных домов с надписью "Керосин", плохо мощеных тротуаров. И, конечно, краны, кругом строительные краны. На дворе, еще раз уточню, – конец 1960-х. Минск все еще отстраивался после войны.

Вдова известного эстрадного певца народного артиста Виктора Вуячича рассказывала мне, что, поженившись в середине шестидесятых, они с Виктором сначала пришли жить в барак к родителям. И стоял этот барак, хоть и двухэтажный, но с туалетом на улице, именно в самом центре, на улице Кирова, но ближе к Свислочи. И рядом такие же бараки. Тяжело восстанавливалась столица. Собственно, как и вся республика.

"Вид на Троицкое предместье" народного художника Георгия Поплавского – о тех же годах. Мы любим "хлопать крыльями", сожалея об ушедшем старинном Минске, но Боже – что за квартал был на Троицкой горе в 1960-х! Рассмотрите внимательно это личное показание свидетеля. Уверена, большинство удивится, может быть, даже не поверит, что 40 лет назад этот фешенебельный теперь район выглядел как обыкновенная трущоба, медвежий угол, криворожье. Что было сохранять, какие образцы архитектуры? Скворечники-туалеты, покосившиеся заборы, нищие дома?

Людям свойственно ностальгировать, заодно приукрашивая свои воспоминания. Так рождаются легенды. Но легенды надо сверять с фактами. И выставка «Наш город Минск» – хороший повод именно для этого: что было, как было. Что стало. Старые минские художники выходили с мольбертами в город и писали его, не приукрашивая. Перед ними как перед живописцами стояли другие задачи: свет, цвет, композиция. Конечно, лирические захолустья выглядели живописнее, романтичнее радостных, но голых новостроек (хоть людям они ох как были нужны!), и потому Борис Аракчеев, Павел Масленников, Абрам Кроль, Михаил Чепик, Александр Кищенко, Май Данциг искали и писали именно заброшенные уголки столицы. Их, оказывается, даже в центре было очень много. Даже отстроенные уже площадь Ленина, парк имени Горького, улицы рядом с Академией музыки – все выглядело не так фешенебельно, как теперь. Далеко не так…

Конечно, такие пейзажи работались не на заказ, государством для музеев они не покупались, сюжеты выплескивались на холсты как подробности личных чувств. Зато теперь эти картины покупают у наследников белорусские коллекционеры. Наверное, тоже для личного удовольствия. Потому что вряд ли эти холсты когда-нибудь выйдут за местный интерес, поднимутся в цене на европейском рынке искусств. Тем более многие из пейзажей всего лишь этюды. Их авторы стали знаменитыми позже, много позже, а пока они, что называется, ходили на пленэр и руку набивали. Но мы же не про деньги здесь, а про чистое удовольствие. Удовольствие знания про наше "старо мяста" без открыточного глянца.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Каб мецъ паболей малака, увекавечым і быка!

На ўзвядзенне помніка Уладзіміру Мулявіну Мінгарвыканкам накіруе з бюджэту 20 тысяч рублёў. А на ўстаноўку помніка карове на пляцоўцы каля Камароўскага рынку будзе патрачана 100 тысяч.

Было б, бадай, зусім дарэчы
(Ды што й казаць: даўно пара!),
Каб горад наш увекавечыў
У бронзе-медзі песняра.
Мулявін – слынная старонка
У нашым летапісе ўсё ж:
Духоўны скарб даносіў звонка
Да простых нас і да вяльмож.
І ўлада выдзеліла сродкі
На помнік з гарадской казны –
Да нас прыслухаліся ўсё-ткі
Вялікаможныя чыны.
Аднак жа гэтыя панове
Нанеслі нам душэўны боль:
Яны для помніка карове
Далі рублёў намнога больш.
Улада тым сказаць хацела
Нам, беларусам, што спярша
Патрэбна думаць-дбаць пра цела,
Яно галоўней, чым душа.
У спрэчкі я ўступаць не стану,
Хоць "пару слоў" сказаць бы мог.
Карова нам дае смятану,
І сыр, і масла, і тварог.
Яшчэ й валюта дадаткова
За малако цячэ ракой.
Ну, словам, корміць нас карова.
Таму карміцельцы такой
Глядзець патрэбна з п'едэстала.
Але не дасць жа малака
(А калі дасць, дык вельмі мала)
Без адмысловага быка.
Патрэбна й мяса для краіны.
Дый кожны з нас цяпер, бадай,
Не пражыве без свежаніны.
А мяса больш дае бугай!
Таму спяшаюся з высновай:
Як аддаваць даніну, дык
Няхай упобачкі з каровай
На п'едэстал узлезе й бык!

## Для мужчын у бохан хлеба дадаваць віягру трэба

У віцебскіх крамах сталі прадаваць "хлеб для мужчын" і "хлеб для жанчын".

Паявіліся буханкі
"Для мужчын" і "для жанчын"...
Ад такое нечаканкі
(Інтрыгоўнае прычым),
Пэўна, нашы ўсе мужчыны
Разам страцілі спакой,
Так сказаць, глыталі сліны
Ад прыемнасці такой:
Можа быць, мужчынскай моцы
"Хлеб мужчынскі" ім дадасць,
Будзе з жонкай больш эмоцый,
Разгарыцца зноўку страсць.
Ну а я, няма сакрэту,
Чалавек немалады.
Дык хацелася б імпэту
Мець пабольш тады-сяды,
Як "тапчу" сваю каханку.
І таму падумаў сам:
"Калі з'ем зараз буханку,
Дык такога дыхту дам!"
А ў належны дзень, дарэчы,
З'еў буханкі нават дзве.
Спадзяваўся: пры сустрэчы
Жарсць былая ажыве.
Верыў: так "таптацьму" з хлебам,
Як не мог ужо здаўна,
І нарэшце з сёмым небам
Пазнаёміцца Яна.
Ды раз'юшыўся да млосці:
Шал любоўны не расце!
А яшчэ й буркоча штосьці,
Як жывое, ў жываце,
Падступаецца да горла,
Быццам цеста на дражджах...
Так што ў ложку цяпнуў гора,
І з "таптаннем" – проста жах.
Не збыліся, словам, мары...
Мне да гэтых пор няўцям,
Што ў пякарнях кулінары
Дадаюць у хлеб жанкам.
Але цвёрда знаю: крамы,
Каб узнік ажыятаж,
З дапамогаю рэкламы
Прадаюць нам хлеб той самы –
Кашалёк пустошаць наш.
* * *
Каб куплялі болей хлеба
Мы, мужчыны, як адзін,
Дадаваць віягру трэба
У буханкі "для мужчын"...

РЭХА

# І ўспаміны накрылі мяне хвалямі светлай, шчымлівай радасці

Шаноўная рэдакцыя, я даўно паважаю газету "Народная Воля" за дэмакратызм і тэматычную разнастайнасць. Мне вельмі падабаюцца інтэрв'ю з цікавымі людзьмі. Адно з іх – з расійскім бізнесменам і мецэнатам беларускай культуры Паўлам Бераговічам – і падштурхнула напісаць гэты ліст. Мне прыйшлося па душы, што ў мястэчку Падароск на Ваўкавышчыне ён стварае Музей беларускай шляхты, блізкія мне і развагі Паўла пра духоўны і культурны код беларусаў.

Справа ў тым, што ў Падароску прайшло маё ранняе дзяцінства. Прачытаў – і ўспаміны накрылі мяне хвалямі светлай, шчымлівай радасці. Успомнілася школа ў панскім двухпавярховым доме на беразе ракі, алеі парку, кузня пры ўездзе ў сядзібу. Школьная сяброўка Янка, што жыла з намі па суседстве...

У 1945-м бацькі мяне, двухгадовага, прывезлі ў Беларусь з далёкага Краснаярска, з геаграфічнай радзімы на радзіму продкаў. У свой час мой дзед па бацьку Піліп Ахрэменка зусім маладым у 1900 годзе пераехаў з вёскі Белая Дуброва Касцюковіцкага павета ў Краснаярскі край. На гэты крок ён пайшоў з-за беззямелля на радзіме.

Трыццацідвухгадовым дзед Піліп быў прызваны ў царскае войска – ішла Першая сусветная вайна. Павяваў нядоўга – разам з усім палком трапіў у германскі палон на тэрыторыі Польшчы. Паводле яго слоў, з-за здрады камандзіра палка. У нямецкім лагеры харчаванне было дрэнным, многа палонных памерла. З сябрамі па няшчасці дзед уцёк з лагера. Рухаліся начамі, адзін з уцекачоў умеў арыентавацца па зорках. Аднак неўзабаве яны зноў сталі палоннымі. Праўда, на новым месцы і парадкі былі іншыя: вязні працавалі на будоўлі і атрымлівалі добры паёк. Потым дзеда перавялі на працу ў сельскую мясцовасць, адкуль ён і выправіўся дадому.

Па дарозе ў Сібір заехаў да сваякоў у Белую Дуброву, дзе, атрымаўшы звесткі з Краснаярскага краю, яго лічылі забітым.

Майго бацьку Івана Ахрэменку перад Другой сусветнай прызвалі ў Чырвоную Армію. Ён скончыў камандзірскія курсы і ў 1938 годзе ўдзельнічаў у баях на возеры Хасан. Быў цяжка паранены, узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга. Са страявой службы яго перавялі на работу ў ваенкамат. Калі ў 1939 годзе саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь, бацька атрымаў прызначэнне ў ваенкамат тагачаснага Поразаўскага раёна, які месціўся ў Падароску. Там і прайшло маё залатое дзяцінства, там і пачаў фарміравацца мой духоўны і культурны код. Шкада, што пажылі мы ў Падароску нядоўга, у 1951-м наша сям'я была змушана пакінуць пасёлак. Справа ў тым, што, пакуль бацька быў у адпачынку, у мястэчку адбыўся трагічны выпадак. Падчас перапахавання забітых на вайне, калі ганаровая варта давала жалобны салют, быў выпадкова застрэлены чалавек. Ваенкама звольнілі, а бацьку перавялі ў Асіповічы. Так я апынуўся яшчэ бліжэй да малой радзімы продкаў.

Далей маё жыццё было звязана з Мінскам. Інстытут, служба ў войску, пасада інжынера, камсамольская і партыйная праца. Пятнаццаць гадоў кіраваў малым прадпрыемствам па абслугоўванні садаводаў і агароднікаў. І сёння працягваю дапамагаць людзям на лецішчах.

Гляджу на сучасную моладзь і бачу, як ёй даводзіцца няпроста. Выклікі часу сёння яшчэ больш складаныя, чым 25–30 гадоў таму. Прыгадваю, што і маім аднагодкам на пачатку 1990-х цяжка было звыкнуцца з новымі ўмовамі жыцця. Шмат хто абураўся новымі парадкамі і настальгіраваў па савецкім часе. Грамадства тады наогул палярызавалася. Але з цягам часу новае ўсё больш рашуча выпіхвала старое на ўзбочыну жыцця.

Слова "крызіс" грэчаскага паходжання і азначае "рашэнне", "выхад". Выхад ізраільскага народа з Егіпта ў Зямлю запаветную доўжыўся 40 гадоў і суправаджаўся вялікімі ахвярамі. Так уладкаваны свет, што развіццё і росквіт чаргуюцца з застоем. Доўгатрывалы заняпад нашага культурнага, духоўнага і рэлігійнага жыцця яшчэ запатрабуе ад усіх нас вялікіх высілкаў дзеля адраджэння Беларусі.

**Валерый АХРЭМЕНКА.**

*Пасёлак Энергетыкаў Дзяржынскага раёна.*

SOS!

## Што, у ночвах нам мыцца?

Паважаная рэдакцыя!

Да вас звяртаюся я, жыхар пасёлка Слаўнае Талачынскага раёна Віцебскай вобласці Пётр Аляксандравіч Кавалёў. Прачытаў у газеце за 13 сакавіка артыкул Аляксандра Фядуты "Без бани..." і вырашыў выказацца па ўзнятай праблеме. Аўтар закрануў вострую праблему. Мы ў сваім Слаўным сутыкнуліся з ёю год таму. У нас таксама зачынілі грамадскую лазню.

Паскольні праблема мае санітарна-гігіенічнае адценне, то напісалі пісьмо галоўнаму санітарнму ўрачу Беларусі. Атрымалі адпіску з пералікам лазняў і душаў, якія як быццам маюцца ў пасёлку і ў якіх можа памыцца трэцяя частка яго жыхароў. Скажыце, а астатнім як быць?

Я разумею, дзяржава наша бедная, бедныя і многія людзі. Лазню, якую ў нас зачынілі, чыноўнікі не наведвалі, яны мыюцца ў іншых месцах. І, мабыць, лічаць, што простым грамадзянам можна і ў ночвах памыцца. Альбо летам выкупацца ў рэчцы ці нейкай сажалцы.

На двары XXI стагоддзе. І, спадары чыноўнікі, нягожа людзям мыцца ў ночвах!

**Пётр КАВАЛЁЎ.**

*Талачынскі раён.*



УСМЕШКА МАСТАКА




Учора Дзяржпагранкамітэт паведаміў, што на беларуска-літоўскай мяжы чакаюць выезду з Беларусі больш як 860 (!) грузавікоў. Вось як гэтую сітуацыю ўбачыла карыкатурыст "Народнай Волі" **Ірына ПУСТАВАЛАВА.**

ГЛАС НАРОДА

# Примите мои предложения, депутаты!

Насколько мне известно, на весенней сессии Палаты представителей будет рассматриваться проект закона Республики Беларусь «Об изменении Уголовного и Уголовно-процессуального кодексов Республики Беларусь».

Я – пенсионер, инвалид II группы, мне скоро 72 года, корректировка норм уголовного закона по экономическим преступлениям напрямую касается интересов моей семьи. Дело в том, что наш сын Альберт Михайлович Цейтлин, 1979 года рождения, отбывает наказание в колонии за нарушение, предусмотренное ч.2 ст.233 УК РБ (незаконная предпринимательская деятельность), а также за помощь другому лицу в уклонении от уплаты налогов, которое это лицо осуществляло, пользуясь его советами.

Впервые его арестовали в октябре 2012 года, а приговор в законную силу вступил лишь спустя четыре года, хотя надзорные жалобы адвокат пишет до сих пор. Было несколько судов, отмена приговора, новый приговор, взятие под стражу, осуждение, новое взятие под стражу, психическое заболевание, три психолого-психиатрические экспертизы, несколько незавершенных попыток суицида и тому подобное.

Я присутствовал почти на всех заседаниях всех судов, накопил много информации о разных аспектах работы наших правоохранительных органов, корпоративной солидарности, предвзятости, обвинительном уклоне, явных следах коррупции. У меня есть большая переписка с Верховным судом, Генпрокуратурой и другими.

В этом письме я хочу высказать несколько замечаний и предложений по уточнению наших законов, которые, если парламентарии сочтут нужным их учесть, сделают работу наших правоохранительных органов более понятной, объективной, чтобы мы понимали, как говорили римляне, «закон суров, но это закон». Мне, к сожалению, чаще приходится вспоминать русскую поговорку «закон что дышло...».

Все знают, что выполнение закона – это соблюдение процедуры. Поэтому хочу высказать свои замечания и внести некоторые предложения.

1) Ответы на вопросы жалоб адвокатов быть конкретными, со ссылками на пункты законов, декретов и т.д. Здесь есть пробел в законодательстве, которым суды пользуются. Они уходят от ответов, замалчивают вопросы.

Пример. В приговоре говорится, что деятельность подсудимых происходила, когда существовали ограничения на вывоз молочной продукции из Беларуси. Речь идет о 2011–2012 годах. Адвокат предоставил суду справку из Минсельхозпрода, что ничего подобного не было. И вставляет этот вопрос во все жалобы. По существу ответить нечего, и вопрос игнорируют. Поэтому я предлагаю, чтобы были четко прописаны правила как для вопросов, так и для ответов. Вот и будет состязательность сторон.

2) В соответствии с ч.4 ст.308 Уголовно-процессуального кодекса Республики Беларусь могут применяться стенографирование, звуко- или видеозапись для обеспечения полноты протокола. Я предлагаю, чтобы слово «могут» было заменено на «должны по просьбе одной из сторон».

В нашем случае звукозапись делали адвокаты и сам суд, но наше требование, чтобы это было приложено к приговору, категорически отвергнуто. А ведь звукозапись теперь широко применяется. И понятно, кому не нужна полнота протокола. Тому, кто не хочет объективности.

3) Статьей 75 Уголовного кодекса определены правила зачета сроков содержания под стражей и домашним арестом. Мой сын полтора года просидел в СИЗО, то есть в тюрьме. Статьи 233 и 243 УК не предусматривают наказания в виде тюремного заключения. И зачет день за день крайне несправедлив. Предлагаю хотя бы день за два.

Мои замечания, протесты вполне соответствуют духу нашего законодательства и пункта 11 Декрета №7. Очень надеюсь на внимательное рассмотрение депутатами моих предложений и включение их в проект подготавливаемого закона.

**Михаил ЦЕЙТЛИН, житель Минска.**

НАБАЛЕЛА!

# Беднякі ў навуцы

У Беларусі быць навуковым супрацоўнікам або навукоўцам стала цалкам непрэстыжна. Каб стаць самастойным навукоўцам, трэба спачатку адвучыцца 4–5 гадоў у ВНУ, потым 1–2 гады ў магістратуры, пасля яшчэ 3 гады ў аспірантуры і абараніць кандыдацкую дысертацыю. І толькі ў 30–35 гадоў, стаўшы навуковым супрацоўнікам навукова-даследчага інстытута Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у лепшым выпадку зарабляць нейкія 450–500 беларускіх рублёў – на ўзроўні акладу дворніка ці прыбіральшчыцы! Пры гэтым даводзіцца ўвесь час вызнаваць маральны прэсінг з нагоды рэарганізацый, скарачэнняў, аптымізацыі колькасці навуковых калектываў, дэкларатыўнага амаладжэння навуковых кадраў, пагрозы няпоўнай занятасці, змены навуковай тэматыкі. І ўсё гэта на фоне пастаяннага недахопу і скарачэння фінансавання, беднай або састарэлай прыборнай і апаратнай матэрыяльнай базы, часцей за ўсё пакінутай у спадчыну яшчэ з савецкіх часоў.

Варта адзначыць, што навукова-даследчая дзейнасць у адрозненне ад працы дворніка, лесаруба, капальніка траншэй ці касіра гіпермаркета звязана з глыбокім пранікненнем у тэматыку, якая распрацоўваецца, з аналізам спецыяльнай літаратуры і эўрыстычнай генерацыяй новых ідэй і нечаканых рашэнняў. Навукоўцы, якія шмат гадоў займаюцца распрацоўкай нейкіх канкрэтных навуковых праблем, абдумваюць іх, не толькі седзячы на сваім працоўным месцы, але і па начах, дома ля тэлевізара, на рыбалцы ў адпачынку або ў выхадны дзень. Яны прыкіпаюць да іх душой і часта проста не

**Расчетный листок**
**за Февраль 2018 г.**
Дикусар Евгений Анатольевич — Таб.№ 13003
Старший научный сотрудник — Кв: Старший научный сотрудник
Лаборотория элементо-органических соединений
Фонд рабочего времени : 20/160
Тарифная ставка (оклад): 165.38 руб.
Ставка (оклад): 375.41 руб.
Сб.банк: Белсвязь — счет:BY70AKBB30140001316825510000

| Начислено | | | | | Удержано | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мес | Код | Вид оплаты | Дни (часы) | Сумма | Мес | Код | Вид удержания | Сумма |
| 02.18 | 100 | оклад | 20 | 165.38 | 01.18 | 500 | под.налог | 0.13 |
| 02.18 | 102 | стаж | 20 | 49.61 | 02.18 | 500 | под.налог | 43.89 |
| 02.18 | 104 | пов.к н.с | 20 | 77.73 | 02.18 | 503 | профсоюз | 4.40 |
| 02.18 | 105 | контракт | 20 | 14.88 | 02.18 | 504 | пенс.взно | 4.40 |
| 02.18 | 115 | уч.степен | 20 | 132.00 | 02.18 | 604 | безнал | 232.78 |
| | | | | | 02.18 | 614 | безнал.ав | 154.00 |
| Итого | | | | 439.60 | | | | 439.60 |

| | За период |
|---|---|
| Доход | 439.60 |
| Сумма стандартных вычетов | 102.00 |
| Облагаемый доход | 337.60 |
| Удержано налога | 43.89 |

здольны змяніць свой род дзейнасці на больш прыбытковы промысел, напрыклад гандаль, або пайсці на вытворчасць. Тады як моладзь, прыходзячы ў навуку па размеркаванні пасля заканчэння ВНУ, стараецца там неяк адбыць належную 2-гадовую «паншчыну», а потым знайсці больш высокааплатную працу. За перыяд вучобы ў магістратуры можна за дзяржаўны кошт палепшыць веды замежных моў або ўдасканаліць свае навыкі ў праграмаванні. Або з'ехаць за мяжу – у краіны, дзе праца вучоных цэніцца непараўнальна вышэй, або пайсці ў галіну інфармацыйных тэхналогій з заробкамі, цалкам прымальнымі па беларускіх мерках, – гэта значыць назаўжды пакінуць «таямнічы востраў» беларускай навукі з яго больш чым сціплымі і абмежаванымі магчымасцямі – як для навуковага ўдасканалення, так і для дасягнення хаця б мінімальнага асабістага эканамічнага росту і росквіту.

**Яўген ДЗІКУСАР, старшы навуковы супрацоўнік.**

*Мінск.*

ОФИЦИАЛЬНО

# Что делать с неиспользованными чеками «Имущество»?

*– Граждане Республики Беларусь имеют право обменять принадлежащие им ИПЧ «Имущество» на акции открытых акционерных обществ, которые предлагаются к обмену через обособленные подразделения ОАО «АСБ Беларусбанк»,* – пояснила во время *«Прямой линии», которая прошла на* **базе справочно-информационной службы «Контакт-центр» Мингорисполкома,** главный специалист отдела организации владельческого надзора распоряжения акциями Минского городского территориального фонда государственного имущества **Ирина Васильева**. – *Там на имя граждан открыт специальный чековый счет. В филиалах банка можно ознакомиться с информацией о правах акционеров, с перечнем ОАО, обменивающих свои акции на ИПЧ «Имущество», с основными видами деятельности этих предприятий, их финансово-экономическим состоянием. Для совершения операции обмена при себе необходимо иметь паспорт и сертификат «Маёмасць». Кроме того, чеки «Имущество» можно переоформить на близких родственников, в том числе на родителей, детей, родных братьев и сестер, внуков, бабушек и дедушек, свекровь и свекра, тестя и тещу.*

По ее словам, держателям ценных бумаг следует поторопиться: согласно постановлению Совета министров Республики Беларусь, срок обращения ИПЧ «Имущество» установлен по 30 июня 2019 года и является окончательным.

ПОЛИТИЧЕСКИЙ СПЕКТАКЛЬ

# Неожиданностей никто и не ждал: Путин опять президент России

Освещать избирательную кампанию в России было бы скучно. Полтора десятка мелких скандалов с участием семи кандидатов, которых зарегистрировали, чтобы стимулировать предвыборную явку. Но это новости не для газеты и даже не для интернета. Ролик в видеосервисе «Ютьюб», где все желающие могут бесконечно любоваться картиной, как кандидат Жириновский поливает кандидата Собчак словами, а та отвечает ему водой. Это все имеет, так сказать, вневременную ценность. Какая разница, увидите вы эту сцену в тот же день или две недели спустя? Никакой. От этого ровным счетом ничего не зависит. И не зависело.

Никто не сомневался в фамилии будущего президента Российской Федерации. Ни в самой Российской Федерации, ни за ее пределами. Фотографии очередей в посольствах России по всему постсоветскому пространству – кроме Киева, но здесь совершенно особая ситуация – свидетельствовала: жить стало не лучше, но веселее, и Владимир Путин для большинства тех, кто за него голосовал, уже не парящий над облаками журавль-стерх, а орел какой-то, способный защитить всех нуждающихся в этом от «Правого сектора» и «Исламского государства», запрещенных в Российской Федерации. Спросите у любого проживающего в Минске с постоянной пропиской гражданина России, и он честно признается, что голосовал за Путина. Причем признается добровольно.

Единственным сколько-нибудь неожиданным ходом стало выдвижение «клубничного короля» ближнего Подмосковья Павла Грудинина кандидатом от коммунистов. Причем российская власть так испугалась этого шага, хоть он и был явно с ней согласован (о чем писали многие обозреватели в самой России), что сосредоточила весь удар именно на этой персоне. В повестке дня российских телеканалов главными врагами России поочередно были Павел Грудинин, Петр Порошенко, Тереза



Reuters

| Кандидат | Количество голосов | Процент голосов | Место |
|---|---|---|---|
| Бабурин Сергей Николаевич | 477.903 | 0,65 | 8 |
| Грудинин Павел Николаевич | 8.648.147 | 11,80 | 2 |
| Жириновский Владимир Вольфович | 4.151.063 | 5,66 | 3 |
| Путин Владимир Владимирович | 56.206.514 | 76,66 | 1 |
| Собчак Ксения Анатольевна | 1.226.145 | 1,67 | 4 |
| Сурайкин Максим Александрович | 498.575 | 0,68 | 7 |
| Титов Борис Юрьевич | 555.189 | 0,76 | 6 |
| Явлинский Григорий Алексеевич | 765.122 | 1,04 | 5 |

*Предварительные данные ЦИК России на 10.30 19 марта 2018 года (обработано 99,84% бюллетеней).*

Мэй и снова Павел Грудинин. И всё. Остальная массовка не производила даже впечатления импровизации: если уж Ксения Собчак сама и добровольно рассказала, как ходила предупреждать крестного отца своего (есть такой человек, и он работал и, судя по всему, будет еще некоторое время работать президентом России) о предстоящем выдвижении, то писать о ней как о серьезном кандидате означало бы уподобляться ей самой в программе «Дом-2» (кстати, что за программа и почему о ней все пишут?).

Отсутствие внимания к российским выборам в Беларуси было связано еще с одним обстоятельством. Беларусь в ходе кампании 2018 года не понадобилась в России никому. Там говорили об Украине и Сирии, о Трампе и Скрипале, но ни о Беларуси, ни о Лукашенко всерьез никто не вспоминал. Наше место во внутриполитической повестке дня российского избирателя оказалось где-то на уровне Приднестровья и Южной Осетии. Это не означает, что о поведении белорусского лидера не вспомнят в Кремле после того, как все внутренние разборки завершатся. Но ведь о нем все равно вспоминают два раза в году – по случаю утверждения бюджета Союзного государства и по случаю рассмотрения газового и нефтяного баланса. А в остальном… Им с нами тоже скучно.

О чем свидетельствует эта, так сказать, взаимная скука? Как ни странно, о том, что мы действительно живем в разных странах. Что даже те, кто искренне позиционирует себя как сторонники союза между Россией и Беларусью, на самом деле уже превратились в политических маргиналов, мало влияющих на ход отношений. То есть государства взаимодействуют экономически – но мы, судя по всему, и с Зимбабве собираемся взаимодействовать экономически. И тоже – по поводу нефти.

Россия выбрала президентом Владимира Путина? Все довольны? Замечательно! Пора заниматься и нам собственными делами.

**Александр ФЕДУТА.**

СКАНДАЛ

# Масква адказала Лондану

Адна з найбольш гучных падзей мінулага тыдня – абмен санкцыямі паміж Аб'яднаным Каралеўствам і Расійскай Федэрацыяй, выкліканымі атручваннем былога шпіёна расійскага ГРУ, а сёння – грамадзяніна Вялікабрытаніі экспалкоўніка Сяргея Скрыпаля і ягонай дачкі Юліі. Заходняя супольнасць упэўнена ў тым, што Скрыпаль з дачкой былі атручаны рэчывам "Навічок", якое знаходзіцца пад кантролем расійскіх спецслужбаў.

Пасля таго як прэм'ер-міністр Тэрэза Мэй паведаміла пра аб'яўленне 23 расійскіх дыпламатаў персонамі нон грата, мала хто сумняваўся, што такім жа чынам адкажа і расійскі бок. Сапраўды, так і адбылося. Але ж апроч гэтага расійскі МЗС адклікаў дазвол на адкрыццё брытанскага кансулату ў Санкт-Пецярбургу і абвясціў аб прыпыненні дзейнасці вядомай няўрадавай арганізацыі "Брытанскі Савет" – культурна-асветніцкай установы, якая працуе пад патранатам МЗС Аб'яднанага Каралеўства з мэтай прапаганды англійскай мовы і культуры. Нехта можа ўзгадаць, што ў свой час у Мінску таксама пэўны час працавала аддзяленне "Брытанскага Савета", але ў 2000 годзе беларускія ўлады палічылі, што можна абысціся і без яго. У 2016 годзе пасол Яе Вялікасці ў Беларусі спадарыня Фіёна Гіб паабяцала зрабіць усё магчымае, каб вярнуць "Брытанскі Савет" у Беларусь, але ж больш пра гэта пакуль нічога не чуць.

Палітычныя аналітыкі лічаць, што закрыццё "Брытанскага Савета" ў Расіі больш нявыгадна сёння расійскаму боку: расійская інтэлігенцыя, да якой з вялікай павагай заўжды прыслухоўваліся ў Вялікабрытаніі, зараз страціла яшчэ адзін канал, праз які магла сустракацца з брытанскімі калегамі і ўплываць на іх. Мякка кажучы, расійскі бок прастрэліў уласную нагу, каб паказаць суседу, як яго не любіць. Дарэчы, так жа ў свой час паступіў і афіцыйны Мінск.

Чым скончыцца свара паміж Масквой і Лонданам, пакуль невядома. Але ж абодва бакі відавочна не збіраюцца саступаць адзін аднаму. Застаецца чакаць навін.

**Фёдар КАНСТАНЦІНАЎ.**

У ДВУХ СКАЗАХ

***

Нямецкі журналіст Дэніз Юджал, які знаходзіўся ў турэцкай турме і быў вызвалены пад ціскам урада ФРГ, тым не менш абвінаваціў урад сваёй краіны ў здрадзе дэмакратычным сілам Турцыі. Паводле ягонага меркавання, здрада адбылася ў той момант, калі ў 2008 годзе Ангела Меркель абвясціла, што шлях Турцыі ў Еўрасаюз зачынены назаўжды, – а быў шанец уцягнуць Анкару ў правядзенне маштабных дэмакратычных рэформаў.

***

Башар Асад наведаў лаяльныя да яго часці Сірыйскай арабскай арміі ў раёне Усходняй Гуты. Заходнія ўрады і ААН заклікалі яго спыніць ваенныя дзеянні ва Усходняй Гуце, дзе, паводле слоў Генеральнага сакратара ААН Антоніу Гутэраша, сірыйскае войска стварыла "пекла на зямлі".

***

Кампанія Ілана Маска TESLA пакуль не можа вярнуць грошы, укладзеныя ў мадэль аўтамабіля трэцяга ўзроўню. Кожны квартал на рэкламу TESLA выдаткоўвае каля мільярда долараў.

***

У Варшаве побач з памяшканнямі курыі адбыліся пратэсты жанчын супраць уплыву Касцёла на прыняцце рашэнняў свецкімі ўладамі – прынамсі ў пытаннях абортаў. Арганізаткі мітынгаў і пікетаў, якія прайшлі таксама ў шмат якіх гарадах Польшчы, падкрэслівалі: мы не супраць рэлігіі – мы супраць ціску любога грамадскага аб'яднання на ўладу ў пытаннях абмежавання правоў чалавека.

***

Вядомы дысідэнт савецкіх часоў, а сёння – палітык і лідар яўрэйскага агенцтва "Сахнут" Натан Шчаранскі атрымаў дзяржаўную прэмію Ізраіля за аб'яднанне яўрэйскай дыяспары. Вядомасць прыйшла да Шчаранскага ў 1970-я гады, калі ён стаў адным з найбольш вядомых савецкіх "*отказников*" – яўрэяў, якім савецкі ўрад адмаўляў у магчымасці эміграцыі ў Ізраіль.

***

У Бангладэш сямёра чалавек, якія належаць да адной з ісламскіх радыкальных груповак, асуджаны на смяротнае пакаранне за забойства шасцідзесяцігадовага хавальніка храма, якое адбылося яшчэ ў 2015 годзе. Паліцыя і пракуратура лічаць таксама, што асуджаныя мелі дачыненне да тэрактаў у дыпламатычным раёне Дакі, дзе загінулі 22 чалавекі, большасць з якіх былі супрацоўнікамі амбасад.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# Сынковіцкая царква



Непадалёку ад горада Слоніма можна пабачыць адно з самых дзівосных збудаванняў на Беларусі – Сынковіцкую царкву. Яна высокая – здаецца, дастае да аблокаў. Сцены – з чырвонай старадаўняй цэглы, нібыта абпалены полымем шматлікіх войнаў, што пракаціліся па нашай шматпакутнай зямлі. Цяжка адарваць вочы ад гэтага надзвычай прыгожага помніка дойлідства.

Сынковіцкая царква – царква-крэпасць. Сведчаннем таму маўклівыя байніцы ў сценах Божага храма. За яго сценамі прашчуры не толькі тварылі малітву Усявышняму, але пры неабходнасці бараніліся ад ворагаў і перамагалі іх.

Падобная бажніца ёсць яшчэ толькі ў вёсцы Мураванка, што таксама знаходзіцца ў Гродзенскай вобласці. У абодвух помніках увасоблены лепшыя рысы беларускага характару: мы – людзі мірныя і гасцінныя, але, калі трэба, умеем пастаяць за сябе, за сваю зямлю.

Сынковіцкая царква, на думку некаторых даследчыкаў даўніны, збудавана ў пачатку XV стагоддзя. Паданне кажа, што заклаў яе сам вялікі князь Вітаўт. І здарылася гэта вось з якой нагоды…

У 1377 годзе памёр вялікі князь Альгерд, які, па словах летапісцаў, «не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў». І пакінуў ён пасля сябе наступнікам любімага сына Ягайлу, які неўзабаве стаў каралём Польшчы. Пайшоў Ягайла вайною супраць свайго роднага дзядзькі вялікага князя Кейстута і сына яго князя Вітаўта. Аднак не змог іх адолець. Тады замысліў ён жорсткую хітрасць. Запрасіў да сябе родзічаў і пакляўся, што не зробіць ім нічога злога. А як толькі яны, паверыўшы клятве, прыехалі ў Вільню, паланіў абодвух. Вітаўта спачатку каля сябе пакінуў, а вялікага князя Кейстута загадаў у ланцугі закаваць і кінуць у вежу Крэўскага замка. Яшчэ праз некалькі дзён служкі Ягайлавы забілі слаўнага Кейстута. Потым у Крэўскі замак прывезлі і Вітаўта з жонкаю...

Далей «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» расказвае:

«Сядзеў вялікі князь Вітаўт у Крэве пад моцнаю вартаю. Штовечар дзве кабеты прыходзілі сцяліць пасцель яму і княгіні. А пасцяліўшы, выходзілі. За дзвярыма пакоя неадступна стаяла варта. Пачула вялікая княгіня Вітаўтава ад людзей: «Калі Вітаўт не ўцячэ з вязніцы, дык тое самае з ім учыняць, што і з бацькам ягоным Кейстутам». І навучыла яна мужа свайго князя Вітаўта пераапрануцца ў адзенне адной з кабет, што прыходзілі ім слугаваць, а з другою – выйсці непрыкметна з пакоя. Паслухаў жонку князь Вітаўт, надзеў на сябе жаночае ўбранне, незаўважна спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію...»

Але, як сведчаць іншыя летапісцы, Вітаўт не адразу накіраваўся ў Прусію. Заблытваючы сляды ад Ягайлавых служак, ён пусціўся наўцёкі зусім у адваротны бок – да старажытнай Літвы, што знаходзілася тады за Наваградкам. І непадалёку ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы, князь Вітаўт знайшоў сабе надзейную схованку пад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, пачаў перамагаць клятваадступніка Ягайлу і ўрэшце стаў адзіным уладаром Вялікага Княства Літоўскага.

Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінучай пагібелі вялікі князь загадаў пабудаваць у вёсачцы каля Слоніма храм: у знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё. Невядомыя таленавітыя дойліды выканалі Вітаўтаву волю і паднялі да нябёс Сынковіцкую царкву-крэпасць, што і па сённяшні дзень зачароўвае людзей сваёй стрыманай суровасцю і казачнай прыгажосцю.



ФОТАФАКТ

# Снег у Парыжы



Улады французскай сталіцы зноў былі вымушаны прыпыніць наведванне аднаго з найбольш вядомых і папулярных сярод турыстаў аб'ектаў – Эйфелевай вежы. Гэта звязана з тым, што падчас снегападу 17 і 18 сакавіка прыступкі вежы абледзянелі і сталі вельмі небяспечнымі для наведвальнікаў.

Гэта трэцяя хваля холаду, якая абрынулася на французскую сталіцу. Трэба заўважыць: улады клапоцяцца не толькі пра турыстаў. У межах плана "Вялікі холад" парыжская мэрыя мабілізавала супрацоўнікаў прэфектур, каб яны аказвалі дапамогу тым французам, хто не мае ўласнага жылля і грошай, каб сагрэцца.

СКАНДАЛ

# Былога канцлера – пад санкцыі?!



Міністр замежных спраў Украіны Паўло Клімкін заклікаў увесці санкцыі супраць заходніх палітыкаў, якіх Украіна лічыць лабістамі Расіі і асабіста Уладзіміра Пуціна на Захадзе. Узначальвае спіс былы канцлер ФРГ – папярэднік Ангелы Меркель, экс-лідар сацыял-дэмакратаў Нямеччыны Герхард Шродэр. Сёння ён з'яўляецца старшынёй назіральнай рады кампаніі "Паўночны паток-2", а таксама рады дырэктараў вядомай расійскай кампаніі "Роснефть", якую ўзначальвае найбліжэйшы паплечнік Уладзіміра Пуціна Ігар Сечын.

Увесь час германскія афіцыйныя асобы, у тым ліку і Ангела Меркель, сцвярджаюць, што праект "Паўночны паток-2" мае выключна эканамічны характар. Аднак кіраўнікі парламентаў Польшчы, Літвы і Латвіі на сустрэчы ў Вільнюсе падпісалі заяву, у якой выказалі ўпэўненасць, што "Паўночны паток" накіраваны на ўзмацненне энергетычнай залежнасці Еўропы ад "Газпрома" і расійскай палітыкі.

Фактычна праект "Паўночны паток" у выпадку ягонай поўнай рэалізацыі прывядзе да таго, што газаправод, які ідзе праз беларускую тэрыторыю, не будзе патрэбны Расіі. Тым самым будзе створана падстава для "транзітнага шантажу" з боку "Газпрома" ў адносінах да Мінска: альбо беларускі бок будзе пагаджацца з умовамі, якія прапануе "Газпром", альбо беларуская дзяржава страціць добры кавалак свайго бюджэту.

Зразумела, чаму прапанова міністра Клімкіна не знайшла падтрымкі на Захадзе: Герхард Шродэр – дастаткова ўплывовая асоба, і ніхто не хоча ствараць прэцэдэнт з асабістымі санкцыямі супраць адстаўнога чыноўніка такога рангу. Калі нумар падпісваўся у друк, стала вядома, што Германія адмовілася ўводзіць санкцыі супраць свайго былога канцлера.

ЗАМЕЖНЫ ГОСЦЬ

# «Карта беларуса нам не патрэбна, нам трэба, каб Беларусь была беларускай»



***Андрэй Сцепанюк** – дырэктар Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім на Беласточчыне.*

*Чаму імя Тарашкевіча можа знікнуць з шыльды ліцэя?*

*Чым адметныя падручнікі, па якіх вучацца беларусы ў Польшчы?*

*Ці існуе ў жыцці разрэкламаваная ў інтэрнэце "падляшская мова"?*

*Госць з Беласточчыны адказаў на пытанні "Народнай Волі".*

**– Андрэй, ваш ліцэй носіць імя Браніслава Тарашкевіча. Беларускія СМІ паведамлялі, што гэтае імя хочуць у вас адабраць, паколькі сябра КПЗБ Тарашкевіч падпадае пад закон аб дэкамунізацыі. Чым закончылася тая гісторыя?**

– Пакуль не закончылася, але я веру, што мы застанёмся з Тарашкевічам. У нашу падтрымку выступілі і беластоцкія беларусы, і гісторыкі ды грамадскія арганізацыі з Рэспублікі Беларусь, гэта быў такі агульнабеларускі рух. Думаю, што Польскі інстытут нацыянальнай памяці, які займаецца дэкамунізацыяй, пакіне нам гэтую постаць. Для нас, беларусаў Беласточчыны, Тарашкевіч найперш стваральнік беларускай граматыкі, пра што заўсёды трэба памятаць. Па-другое, ён быў чалавек польска-беларускага памежжа, які абіраўся паслом Польскага Сойма, які пераклаў на беларускую мову "Пана Тадэвуша". Прыкра, што Польскі інстытут нацыянальнай памяці выпусціў з-пад увагі той факт, што калі Тарашкевіч апынуўся ў Савецкім Саюзе, то там яго палічылі "польскім шпіёнам" і ўрэшце расстралялі. Другі бок біяграфіі Тарашкевіча добра паказаў палякам прафесар Алег Латышонак. Пагадзіцеся, гэта было б нешта страшнае, калі б чалавека, якога забілі камуністы, у новай свабоднай Польшчы абвінавацілі ў злачынным супрацоўніцтве з камуністамі. Думаю, імя Тарашкевіча ўсё ж застанецца на шыльдзе нашага ліцэя. Калі маладыя людзі ўпершыню пераступаюць ліцэйскі парог, то мы найперш знаёмім іх з жыццяпісам нашага патрона.

**– А ці шмат у вас вучняў?**

– У гэтым навучальным годзе – 230. Бельск-Падляшскі – невялікі гарадок, 26.000 жыхароў. Увогуле ў Польшчы ёсць два ліцэі, дзе выкладаецца беларуская мова, – наш і ў Гайнаўцы. Гадоў дзесяць таму ў нас налічвалася каля 400 вучняў, але дэмаграфічны крызіс робіць сваю справу. У польскіх школах, асабліва ў правінцыі, працягвае змяншацца колькасць вучняў.

**– А тое, што ваш ліцэй беларускі, не адпужвае навучэнцаў?**

– Думаю, не. У Бельску-Падляшскім ёсць два ліцэі – беларускі і польскі. Польскі, дарэчы, носіць імя Тадэвуша Касцюшкі... Дык там прыкладна столькі ж вучняў, як у нас. Ну так, ёсць маладыя людзі, якія ніколі да нас не прыйдуць, бо не хочуць вывучаць беларускую мову. Гэта ж лішняя праца, дадатковыя прадметы, без якіх хтосьці можа спакойна абысціся.

**– Мне трапляў у рукі "Лемантар", па якім вучацца маленькія беларусы на Беласточчыне. З "Пагоняй" на вокладцы, з вершамі Ларысы Геніюш, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча… А па якіх падручніках вучацца вашы ліцэісты?**

– У свой час я скончыў ліцэй, дзе цяпер працую дырэктарам. Гэта было на пераломе 1970–1980-х гадоў, але мы вучыліся па старых падручніках, дзе яшчэ ўсхваляўся Сталін. Пазней нам прывозілі падручнікі з Беларусі. Цяпер жа мы карыстаемся пераважна падручнікамі, створанымі ў Польшчы. Можна сказаць, мы самі, беларусы Польшчы, іх стварылі, а іх выданне фінансуе Міністэрства адукацыі Польшчы. Мы ў ліцэі вывучаем не толькі беларускую мову і культуру, у нас ёсць яшчэ такі прадмет, як "Гісторыя і культура беларускай меншасці ў Польшчы". Мы – частка агульнай беларускай прасторы, але мы хочам таксама ведаць свой край, свае культурныя асяродкі. Нам у ліцэі даводзіцца карыстацца і згаданым "Лемантаром", бо, прыходзячыя да нас, вучні часам зусім не ведаюць беларускай мовы.

**– Ведаю, што ў вашым ліцэі бываюць афіцыйныя прадстаўнікі беларускай амбасады, іншыя чыноўнікі. Як яны ставяцца да беларускай гістарычнай сімволікі ў сценах ліцэя? Крытычных заўваг не выказваюць?**

– Па-першае, мы не вельмі звяртаем увагу на тое, што думаюць беларускія чыноўнікі. Сапраўды, у нашым ліцэі вісяць вялізная "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг (як і сцягі Польшчы і Еўрасаюза). Некалькі гадоў таму на з'ездзе выпускнікоў у нас пабывалі прадстаўнікі консульства і амбасады Беларусі, і так адбылося, што яны селі пад бел-чырвона-белым сцягам. Ім потым і здымак прыгожы зрабілі. Ім, можа, гэта і не вельмі спадабалася, але ў ліцэі гаспадары – мы, а яны – госці. А цяпер мы акурат рыхтуемся да 100-й гадавіны з дня ўтварэння БНР. Зразумела, у пэўную хвіліну мы паказваем вучням і сцяг ды герб Рэспублікі Беларусь, але ўсё ж на ганаровым месцы ў нас – "Пагоня" і нацыянальны сцяг. Гэта для нас нармальна, а калі хтосьці з беларускіх чыноўнікаў адвярнецца, то гэта яго справа.




**– Мой сын вучыцца ў пятым класе беларускамоўнай гімназіі ў Мінску, у іх на мову адведзены тры гадзіны на тыдзень. А ў вашым ліцэі які расклад?**

– Наш ліцэй быў заснаваны ў 1944 годзе, калі яшчэ працягвалася вайна. І дзесьці да 1970-х гадоў усе прадметы выкладаліся на беларускай мове. Але выпускнікі хацелі паступаць у польскія ВНУ, таму адбыўся адыход ад мовы. Сёння ў ліцэі ўсе прадметы выкладаюцца па-польску, тры гадзіны ў тыдзень адводзяцца на беларускую мову і літаратуру, яшчэ адна гадзіна – на гісторыю і культуру беларускай меншасці ў Польшчы. Зразумела, ёсць і заняткі пасля ўрокаў. У нас дзейнічае спеўны гурт "Спадчына" з цалкам беларускім рэпертуарам, ёсць свой тэатральны гурток, які ажыццяўляе беларускія пастаноўкі.

**– У інтэрнэце актыўна дзейнічае група людзей, якія прапагандуюць гэтак званую "падляшскую мову". Нешта падобнае калісьці адбывалася і на Брэстчыне, дзе адзін авантурыст вынайшаў "яцвяжскую мову". Ці на Падляшшы сапраўды існуе свая адметная мова?**

– Для мяне гэта адназначна дыялект мовы беларускай. Я ім карыстаюся ў размове з мамай, яго трэба шанаваць. Толькі ў некаторых мясцінах Падляшша і Беласточчыны (асабліва на Сакольшчыне) гавораць на мове, блізкай да беларускай літаратурнай. У нас на Падляшшы, у Студзіводах, вельмі паспяхова дзейнічае Музей малой бацькаўшчыны, які стварыў Дарафей Фіонік. Ён акурат культывуе падляшскі дыялект, выдае на ім кніжкі (выдае таксама і на літаратурнай беларускай мове). Найбольшы прыхільнік "падляшскай мовы" – Ян Максімюк, я ацэньваю яго дзейнасць адмоўна. Мне не хочацца, каб мы зноў дзесьці разбягаліся, нам трэба яднацца.

**– У Мінску вы прэзентавалі сваю паэтычную кнігу "Распісаны квадрат". Шыкоўнае выданне – у супервокладцы, мастацкія фотаздымкі. У Польшчы ўсіх беларускіх паэтаў так выдаюць?**

– Хіба не. Мне такі падарунак зрабіў рэдактар беластоцкага тыднёвіка "Ніва" Яўген Вапа. Як бачыце, я не спяшаўся, дэбютаваў пасля 50 гадоў. Дызайн кнігі зрабіў Юрка Асенік, здымкі – наш падляшскі фотамастак Павел Грэсь. У выніку кнігу прыемна трымаць у руках, спадзяюся, і змест яе не расчаруе чытачоў.

**– Я памятаю часы, калі ў Мінску ў дзяржаўных выдавецтвах выходзілі кнігі беластоцкіх беларусаў – Сакрата Яновіча, Яна Чыквіна, Алеся Барскага, Віктара Шведа. Цяпер вы самі мусіце рупіцца пра свае выданні. Вам не крыўдна?**

– Няма чаго крыўдаваць. Сёння нам вельмі спрые Саюз беларускіх пісьменнікаў, які ўзначальвае Барыс Пятровіч. Раз на год на Беласточчыне адбываецца літаратурны фестываль "Бязмежжа", дзе сустракаюцца найлепшыя аўтары з Беларусі і Польшчы. Мы друкуемся ў "Дзеяслове" і нейкім чынам уваходзім у кантэкст агульнабеларускай літаратуры. Яшчэ невядома, хто каму мусіць дапамагаць. Вось мая кніга выйшла ў Бельску-Падляшскім накладам 500 асобнікаў, а якія наклады ў Мінску? Добра, калі 200–300 асобнікаў. Няхай беларуская дзяржава падтрымае беларускую літаратуру, якая тут паўстае. А мы там, за мяжой, свайго будзем дамагацца самі.

**– Ці з'яўляюцца на Беласточчыне маладыя таленты?**

– З'яўляюцца, хоць і не так часта, як хацелася б. Газета "Ніва" перыядычна ладзіць конкурс "Дэбют", выяўляючы таленавітую моладзь. Ад паланізацыі немагчыма схавацца, і ў беларускай прасторы застаецца ўсё менш людзей. На шчасце, таленты прабіваюцца, як трава праз асфальт. Скажам, ёсць у нас маладая паэтка Кася Сянкевіч, якую нядаўна заўважылі і ў Мінску, выдалі кнігу.

**– 100.000 грамадзян Беларусі ўжо атрымалі гэтак званую карту паляка. Ці не пара ўвесці карту беларуса для жыхароў Беласточчыны?**

– Асабіста мне карта беларуса не патрэбна. Хай лепш пашыраецца бязвізавы рэжым, які ўжо дзейнічае ў некаторых мясцовасцях Польшчы і Беларусі. Мы ўсё ж грамадзяне Польшчы і, напэўна, імі застанёмся. Дык чым тая карта нам дапаможа? Нам патрэбна толькі адно – каб Беларусь была беларускай. Што з таго, што я з картай беларуса прыеду ў Мінск і паўсюль на вуліцах пачую рускую мову? Зрабіце Беларусь беларускай, і мы будзем прыязджаць з радасцю, калі трэба, то і візу купім.

**Гутарыў Антось БРЫЛЕЎСКІ.**

**На фота: вокладка беларускага "Лемантара", выдадзенага ў Беластоку.**

ГІСТОРЫЯ БНР: 100 ГОД ТАМУ…

# Незалежнасць абвешчана!

У папярэдняй публікацыі мы расказалі пра пачатак гістарычнага пашыранага пасяджэння Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 24–25 сакавіка 1918 года. На жаль, стэнаграма гэтага пасяджэння, у адрозненне ад афіцыйнага пратакола, пакуль што, здаецца, не знойдзена, але захаваліся ўспаміны пра яго ход і атмасферу аднаго з "бацькоў БНР", аўтара праекта Трэцяй Устаўной граматы Антона Луцкевіча, апублікаваныя 25 сакавіка 1921 г. у віленскай газеце "Наша думка", галоўным рэдактарам якой быў класік нашай літаратуры Максім Гарэцкі.

"Шэрыя світкі, шэрыя салдацкія шынэлі, якія яшчэ мала хто паспеў скінуць з плеч – узгадваў ён, – надавалі агульны тон сабранню. Але светлыя, рахманыя вочы, энергічныя твары іх валадароў гаварылі ясна, што то не простыя сярмягі сышліся, а цвет беларускае народнае інтэлігенцыі.

Настрой з самага пачатку быў урачысты, паважны. Відаць было, што штосьць сапраўды важнае мае вырашыцца ў зале Рады".

Далей Антон Луцкевіч расказвае пра дванаццацігадзінную "слоўную баталію", што набыла на пасяджэнні асабліва драматычны характар пасля таго, як была ўнесена прапанова аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Першую атаку на гэтую прапанову пачалі некаторыя прадстаўнікі земстваў. Сярод іх найбольш яскравым было выступленне буйнога землеўласніка Мінскай губерні, а заадно і прадстаўніка польскай меншасці Канстанты Дэмідэцкага-Дэмідовіча. Антону Луцкевічу было вельмі дзіўна чуць менавіта з яго вуснаў гарачыя словы аб "дарагой матухне Расіі". У яго словах чулася відавочная фальшывасць, за якой хаваўся нейкі асабісты інтарэс. Падобнымі, няшчырафальшывымі выглядалі выступленні прадстаўнікоў найбуйнейшай на той час левай яўрэйскай партыі – Бунда. Апошнія казалі пра тое, што беларускаму сялянству ніяк не пражыць без адзінай Расіі. Аднак не ўсе яўрэі – удзельнікі пасяджэння трымаліся такой пазіцыі. Да прыкладу, прадстаўнік Віцебскай арганізацыі сацыялістаў-сіяністаў Мац (тут успаміны Луцкевіча ўдакладніў Макар Краўцоў, іншы ўдзельнік пасяджэння) горача падтрымаў ідэю абвяшчэння незалежнасці БНР.

Далей ізноў дадзім слова самому Антону Луцкевічу:

"Атмасфера станавілася ўсё больш цяжкой. Узрастала нервовасць прамоўцаў, і часта падалі рэзкія словы то з аднаго, то з другога боку. Усе спробы дайсці да кампрамісу нічога не далі. "Мы выйдзем з Рады!" – грazіліся "земцы". – "Шчаслівае дарогі!" – адказвалі з беларускіх месцаў.

Урэшце настаў рашучы момант: галасаванне. Новыя спробы сарваць справу новыя "адводы" з боку ворагаў незалежнасці. Дарэмна!

Ужо днее. Бляск світання так дзіўна спалучаецца са святлом электрычных лямпачак і так дзіўна асвятляе змучаныя, але ажыўленыя напружанай воляй твары людзей.

Каля шостае гадзіны раніцы старшыня ставіць на галасаванне фармулёўку: "Рада Рэспублікі абвяшчае Беларусь незалежнай і суверэннай дзяржавай і выдае аб гэтым Устаўную грамату.

Хоць ясна для ўсіх, што перамога забяспечана, усё ж глыбокая ціша пануе ў зале, пакуль лічаць галасы. Кожны адчувае, што вось-вось зараз нешта мае зрабіцца – нешта важнае, выключнае, такое, што двойчы не паўтараецца. Кожны разумее, што кліч, які зараз прыме ці адкіне Рада, – гэта кліч да новага, вольнага жыцця, гэта запаведзь яснае долі для ўсяго шматпакутнага беларускага народа…

І яно сталася: велізарнай перавагай галасоў фармулёўка прынята!

Радаснымі воклічамі парушаецца ціша. Пачынаюцца гарачыя авацыі".

У прынятай 25 сакавіка 1918 года Трэцяй Устаўной грамаце адзначалася, што "*самі народы Беларусі ў асобе свайго Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных саюзах Беларусі*". На гэтай падставе павінны былі страціць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія "*далі магчымасці чужому ўраду падпісаць і за Беларусь*" Брэсцкую дамову, што "*забівае насмерць беларускі народ, дзелячы яго зямлю на часткі*". У заключным абзацы дакумента адзначалася: "*Абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы*".

Якую прававую моц мелі рашэнні, прынятыя ў Мінску 25 сакавіка 1918 года? Пэўны адказ на гэтае пытанне даюць сучасныя гісторыкі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў сваёй новай калектыўнай працы, што днямі выйшла з друку ў мінскім выдавецтве "Беларуская навука":

"*Канстытуцыйная і юрыдычная абгрунтаванасць Трэцяй Устаўной граматы вынікае з таго, што Рада БНР атрымала свае паўнамоцтвы ад Усебеларускага з'езда, дэлегаты якога прадстаўлялі большасць беларускага народа, а легітымнасць абвяшчэння незалежнасці БНР пацвярджаецца дэкрэтам СНК РСФСР ад 29 жніўня 1918 г., якім скасаваліся ўсе дагаворы і акты, заключаныя ўрадам былой Расійскай імперыі з урадамі Каралеўства Прускага і Аўстра-Венгерскай імперыі, якія датычыліся падзелаў Польшчы, з-за іх супярэчнасці прынцыпу самавызначэння нацый і рэвалюцыйнай правасвядомасці рускага народа*". Я запярэчыў бы акадэмічным гісторыкам толькі ў адным: сам захоп улады бальшавікамі ў Расіі ў кастрычніку 1917 года не меў ніякага законнага абгрунтавання, і Радзе БНР абсалютна не было патрэбна "прававое" прызнанне або непрызнанне з боку неправавым чынам створанай Савецкай дзяржавы. У сутыкненні з бальшавізмам адстаяць свае дзяржаўныя і нацыянальныя правы беларусы маглі толькі праз наяўнасць вялікай вайсковай сілы і спрыяльную кан'юнктуру на міжнароднай палітычнай арэне. За тое і за другое героям – стваральнікам Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ трэба было змагацца, не шкадуючы сіл…



**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, кандыдат філалагічных навук.**

СПАДЧЫНА

# Гэта было ягоным святам

Верш "У Дзень Волі" напісаў мой зямляк і старэйшы сябра – доктар філалагічных навук, паэт і літаратуразнавец Мікола Арочка (1930–2013). Напісаў ён гэты верш 20 гадоў таму – 25 сакавіка 1998 года – у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Там пісьменнік і пражыў апошнія дзесяцігоддзі свайго жыцця, там ён і застаўся назаўсёды на мясцовым пагосце сярод аднавяскоўцаў і сыноў.

Мікола Арочка вельмі перажываў за лёс Бацькаўшчыны, за лёс роднай мовы. Ён добра ведаў беларускую гісторыю, літаратуру, культуру. Ім былі напісаны ўнікальныя драматычныя паэмы "Курганне. Крэва", "Судны дзень Скарыны", "Каранацыя Міндоўга". А яшчэ ён пісаў вершы, прысвечаныя вялікім асобам і падзеям. Шмат паэтычных радкоў майго земляка засталіся яшчэ неапублікаваныя. Сярод якіх – верш-шэдэўр "У Дзень Волі". Думаю, дзядзька Мікола не пакрыўдзіўся б, а, наадварот, быў бы шчаслівы і рады бачыць свой верш на старонках "Народнай Волі" да 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 Сакавіка было ягоным святам.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

*Слонім.*

## У Дзень Волі

Ад нас хавалі доўга гэту дату –
Яе над ямай крываніў свінец,
Яе тапталі ў бруд, ламалі кратай,
Душылі дротам, мерзлатою клятай,
Смех супастатаў цешыўся: канец!
Не дата прамаўляе – вусны, вочы
Суродзічаў нязздатных, тых асоб
Сапраўдных вояў, розумаў прарочых,
Што ўласным целам з цемры патарочай
Масцілі Шлях нам…
Колькі мужных спроб!
Таму і спешка з нашаю канчынай,
Каб распладзіць бяспамяцтва рабоў.
Ды за плячыма ў даты той – Айчына,
У курганах сівых, у збройных чынах,
Дзе паласой – па белым – наша кроў.

**Мікола АРОЧКА.**

*1998 г.*

ДОБРЫ ПРЫКЛАД

# Паводле ініцыятывы міністра…




З нядаўняга часу сайт Міністэрства аховы здароўя Беларусі займеў новы дызайн, і, што прыемна адзначыць, цяпер інтэрнэт-рэсурс адкрываецца беларускамоўнай версіяй. Зразумела, што ёсць таксама рускамоўная і англійская версіі сайта.

"Гэта ініцыятыва міністра Валерыя Малашкі", – кажуць у прэс-службе ведамства.

Трэба адзначыць, што ўсе дзяржаўныя сайты краіны існуюць у трох моўных версіях, але да нядаўняга часу толькі сайт Міністэрства культуры адкрываўся беларускамоўным варыянтам. Зараз гэтую ініцыятыву падхапіла Міністэрства аховы здароўя. А што астатнія дзяржаўныя інстытуты?! Напрыклад, Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства замежных спраў…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

# Простыя словы пра БНР

Яшчэ дваццаць гадоў таму выйшаў у свет фундаментальны звод дакументаў у двух тамах "Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі" (разам больш за 2000 старонак), які сабраў, падрыхтаваў да друку і пракаментаваў журналіст і даследчык гісторыі Сяргей Шупа. Тое выданне нібы адсланіла заслону таямнічасці, якая доўгі час ахутвала архівы БНР. Хадзілі чуткі, што яны знішчаны, вывезены эмігрантамі за мяжу, закапаны ў невядомым месцы дзесьці пад Парыжам, дзе жыў адзін з прэзідэнтаў Рады БНР Мікола Абрамчык...

Але любая таямніца ўрэшце адкрываецца тым, хто мэтанакіравана і настойліва займаецца пошукамі. Сяргей Шупа ўвёў у навуковы абыходак ажно 3837 дакументаў – афіцыйныя мемарандумы, лісты, пратаколы пасяджэнняў, пасведчанні, акты, граматы. А да 100-годдзя БНР паводле таго двухтомніка, які даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю, ён напісаў папулярную кнігу "Падарожжа ў БНР".

Сам аўтар у інтэрв'ю Радыё Свабода расказаў пра кнігу так: "Тады мне быццам давялося пражыць некалькі гадоў у Беларускай Народнай Рэспубліцы. Я перабраў да апошняй старонкі тысячы і тысячы дакументаў, што захоўваюцца ў мінскіх і вільнюскіх архівах, перачытаў мноства тагачасных газет на ўсіх даступных мне мовах. Дваццаць гадоў таму прадуктам гэтай апантанасці сталі дзве кнігі "Архіваў БНР". Гэта мяне трошкі адпусціла, і я памалу адышоў ад гэтай тэмы. Думалася: ну вось, дакументы сабраны, яшчэ выйдзе дадатковы том – і пачне з'яўляцца нейкі новы творчы плён. Бо матэрыялу і для навукі, і для літаратуры там дастаткова. Аднак чаканага я так і не дачакаўся. Навукоўцы, праўда, не падвялі – з'явілася нямала новых прац, якія пашыраюць і паглыбляюць тэму. А вось папулярнай літаратуры – не відаць. Таму я і вырашыў пераказаць усё прачытанае і перажытае простымі словамі".

Прэзентацыі кнігі "Падарожжа ў БНР" пройдуць 20 сакавіка ў Мінску (19.00, культурны інкубатар "Ок16", вул. Кастрычніцкая, 16) і 23 сакавіка ў Гродне (18.30, этнакрама "Цудоўня", вул. Кірава, 3). Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя!

**Міхась ЗАГОРСКІ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 САКАВІКА 2018 г.



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# Тэст

## Апавяданне

**1** Накіраванне на псіхалагічны тэст для Браніслва Зубовіча сталася поўнай нечаканасцю. Ён быў заўзяты аўтамабіліст, інжынер паводле адукацыі, амаль сорак гадоў таму набыў "Жыгулі" першай мадэлі, славутую "капейку". Калясіў на ёй па Беларусі гадоў дваццаць, вазіў на лецішча жонку, дзяцей. Ездзіў акуратна і па горадзе, і за горадам, цвёрда засвоіў: галоўная прычына амаль усіх аварый – перавышэнне хуткасці. Абгоны на нашых вузкіх асфальтоўках дабром не канчаюцца. Злаваў на ліхачоў, якія яго абганялі, бурчаў: "Куды прэш на злом галавы?!" А жонка нагадвала яму правіла "трох Д", якое пачула ад яго ж і моцна запомніла: Дай Дурню Дарогу.

Сваю першую машыну ён любіў, бярог, тэхагляды праходзіў своечасова, што трэба – рамантаваў неадкладна. І машына служыла безадказна. І магла служыць доўга, але аднойчы ў цэнтры горада перад святлафорам "пацалавала" ягонага "жыгулёнка" маладая сімпатычная бізнесвумен на шыкоўным джыпе: шчабятала па мабільніку. І замест тормаза націснула на газ. Яна сплаціла грошы на рамонт. Зубовіч хацеў і далей ездзіць на любімай "капейцы", але жонка і дзеці ўгаварылі набыць "Фальксваген". І неўзабаве ён пераканаўся, што іншамарка куды лепшая: эканомная, камфортная, прыёмістая – імкліва набірае хуткасць.

Але з кожным разам усё цяжэй праходзіў Зубовіч шафёрскую медкамісію. Як быў маладзейшы, даведку давалі на пяць гадоў, пасля пяцідзесяці – на тры, потым – на два. А на гэты раз і зусім завярнулі: ціск павышаны. Акуліст строга сказала: "Браніслаў Антонавіч, болей без акуляраў да нас не прыязджайце". Гэта яго моцна расстроіла, на пытанні неўролага ён адказваў невыразна. І той накіраваў на псіхалагічны тэст.

– Паліклініка на вуліцы Мендзялеева. Тут адрас, тэлефон. Ім трэба пазваніць і спытацца, калі могуць вас прыняць. Вы не крыўдуйце… Пасля сямідзесяці пяці нам рэкамендуюць накіроўваць на тэст. Вы пройдзеце. Усё будзе ў парадку.

Праз два тыдні Браніслаў ехаў здаваць тэст, хваляваўся, нібы перад выпускным экзаменам. У глыбіні душы ён крыўдаваў на доктара, які палічыў яго за шызіка, але ў душы была ўпэўненасць, што адкажа на ўсе пытанні псіхолага. І ўсё ж хваляванне ўсё мацней авалодвала ім. Апошнім часам ён пачуваўся не дужа добра. Год таму пахаваў жонку, з якой трохі не дажылі да залатога вяселля. Дзеці – сын і дачка – мелі свае сем'і, жылі асобна, ён да іх ездзіў, каб пабачыцца з унукамі, прывезці ім гасцінцы – часцей гэта былі бананы, пячэнне.

Улетку Зубовіч жыў на лецішчы, ладзіў градкі, садзіў у парніку памідоры, гадаваў расаду капусты. Раней гэта рабілі ўдваіх з жонкай, а цяпер усё на адны рукі, таму моцна стамляўся. Часцяком заходзіла да яго даўняя каляжанка па рабоце на заводзе Жанна Ермалаеўна, маладзейшая за яго на тры гады. Высокая, сухарлявая, заўсёды ў акулярах, яна пільна пазірала на Браніслава, быццам спрабавала ўбачыць адказ на сваю прапанову. А яна сама і прапанавала:

– Антонавіч, давай жыць разам. Што ты будзеш адзін марнавацца? І ўдзень адзін, і ўвечары адзін. І ноччу… У дзяцей – свае сем'і. Як і ў маіх. Мы ім не патрэбны. Пара пра сябе падумаць.

Зубовіч разумеў Жанну, быў удзячны ёй, але нешта супраціўлялася ў душы, мо таму, што занадта свежая была рана ад смерці любімай жонкі. Не вабіла яго сухарлявая постаць Жанны, да таго ж яна мела прыродны недахоп: левая нага была трошкі карацейшая за правую, цяпер, у старасці , гэта было асабліва прыкметна, бо хадзіла яна, перавальваючыся, нібы качка. Браніслаў зрэдку выпіваў з ёй, асабліва калі прывозіў яе з лецішча, Жанна лезла цалавацца, ён нехаця паддаваўся, але на любошчы не цягнула.

Браніслаў расказаў ёй пра накіраванне на тэст. Жанна вельмі далікатна супакойвала: у цябе светлая галава, усё ты пройдзеш. Не перажывай. І ён быў удзячны суседцы, яго кранула далікатнасць, жаданне памагчы, паверыць у свае сілы. Словы пра светлую галаву былі для Браніслава, як мёдам па душы.

**2** І вось ён едзе на псіхалагічны тэст. Спярша яго ціснулі ў перапоўненым тралейбусе, потым перасеў на аўтобус, усё часцей пазіраў на гадзіннік – у паліклініцы трэба быць а 13-й гадзіне. За акном квітнеў травень, запалілі белыя свечкі каштаны, але Зубовіч не заўважаў вясновага харастра: думка пра таямнічы псіхалагічны тэст не выходзіла з галавы. Браніслаў ніколі раней не быў на вуліцы Мендзялеева, не ведаў, што яна ёсць у іхнім абласным горадзе і што на гэтай вуліцы, якая носіць імя славутага навукоўца, месціцца паліклініка "пограничных состояний". Менавіта гэтак было напісана на шыльдзе. Дом быў новы, зусім блізка стаялі хаты прыватнага сектара, атуленыя белымі ад квецені садамі.

Да прызначанага часу заставалася пяць хвілін. Браніслаў уздыхнуў з палёгкай: не спазніўся, значыць, усё будзе добра. Хутка знайшоў у цемнаватым калідоры патрэбны кабінет, ціха ўзрадаваўся, што няма чаргі, прысеў на лаву насупраць дзвярэй, за якімі чуліся галасы.

Пасядзеў хвілін дзесяць, ніхто яго не выклікаў, з кабінета ніхто не выходзіў і туды не заходзіў. Набраўся смеласці, ціхутка пагрукаў у дзверы, адчыніў.

– Трошкі пачакайце. Я вас пазаву, – гучным голасам прамовіла хударлявая жанчына ў акулярах, перад якой сядзеў мажны чырванатвары пацыент. – Хаця, не… Як ваша прозвішча? Так, вы ў мяне запісаны. Трэба вам аплаціць тэст, – падала сінюю кардонку. – Тут усё напісана. Сума. Банкаўскі рахунак. З чэкам зойдзеце да мяне.

Доктарка растлумачыла, як знайсці банк, які знаходзіўся непадалёку. На вуліцы Зубовіч, разгледзеўшы кардонку, спярша не паверыў сваім вачам: сплаціць трэ было 142 тысячы рублёў. Ён думаў, што гэта зусім бясплатна. За камісію аддаў 143 тысячы, дык там жа шмат дактароў, дакументаў, а тут – проста гутарка. Але нічога не паробіш: парадак ёсць парадак.

Калі Зубовіч завітаў у кабінет з чэкам, дакторка падала яму вялікі аркуш паперы:

– На гэтым аркушы 299 пытанняў. Калі ваш адказ станоўчы – над нумарам ставіце птушачку зверху, калі адмоўны – птушачку ставіце знізу. Ручка ёсць? – не чакаючы адказу, падала сінюю ручку, дадала: – У вестыбюлі стаіць стол. Там сядзяць пацыенты, адказваюць на пытанні. Калі што незразумела – да мяне. Працуйце!

Цяпер Зубовіч зразумеў, што тэст – гэта не проста гутарка і што ён тут засядзе надоўга.

**3** Пытанні былі самыя розныя: ці любіце вы сваю маму, ці шмат у вас сяброў, ці сняцца вам кашмарныя сны, ці вясёлы вы ў кампаніі, ці не здаецца вам, што вас недаацэньваюць на працы, ці можаце вы ўдарыць за знявагу, ці любіце чытаць, што болей любіце – класічную музыку ці джаз?

Пасля дзесяці або дванаццаці пытанняў была прыпіска: гэты нумар абвядзіце кружком. Прыпіска нават рассмяшыла Зубовіча: няўжо гэта цяжка – абвесці кружком? Далей пытанні ўскладняліся, некаторыя паўтараліся, але ў іх мяняўся парадак слоў, і адказаць адразу было зусім не проста. Нават прапанова абвесці кружком прымушала задумацца: што гэта значыць і дзеля чаго гэты кружок?

Зубовіч адчуў, што пачынае балець галава, вырашыў зрабіць перадых, каб не наблытаць у адказах. Заплюшчыў вочы, слухаў, як пульсуе кроў у скронях, а патыліца нібы наліваецца цяжарам – значыць, падымаецца ціск. А як адказваюць іншыя пацыенты? Зірнуў на маладога мужчыну ў скуранцы – бледнатвары, вострыя залысіны, на даўгаватым носе бліскучыя ауляры.

– Што, дзядзька, цяжкія пытанні? – мужчына зірнуў на Зубовіча, усміхнуўся. – Вы не спяшайцеся адказваць. Пытанні хітрыя, з падкавыкай. І так іх шмат, што нармальнага чалавека могуць збіць з панталыку.

– Ваша праўда, – ахвотна загаварыў Зубовіч, і яму заманулася спытацца ў чалавека, чаму ён тут. Мо на адказную працу ўладкоўваецца? Але спахапіўся: пытанне можа прагучаць недарэчна.

– А грошыкі вунь якія дзяруць!– падтрымала гаворку маладая русявая жанчына.

Зубовіч паспеў прыкмеціць: яна кусала пазногці, адказваючы на пытанні. Значыць, хвалюецца. А чаму яна тут? Маладая, сімпатычная кабета. Не, пра гэта не спытаеш. Гэты роздум супакоіў яго. "Мая сітуацыя звычайная, – падумаў ён, – на службу ўладкоўвацца не трэба, у псіхушку не запруць. А з гэтай процьмай пытанняў спраўлюся".

– Кандратовіч! Заходзьце! – паклікала доктар.

Мужчына рашучым крокам патупаў па калідоры. Зубовіч пазайздросціў ягонай рашучасці, пачаў адказваць далей. Ён не паспеў адказаць і на трэць пытанняў, як докатр паклікала яго. Спярша яна спытала, хто ён па прафесіі, дзе вучыўся, якія праблемы са здароўем. Яна ўсё запісала, потым таропка зірнула на ягоныя адказы.

– Сям-там вы трохі памыляліся. Але ў цэлым усё нармальна. А цяпер слухайце і запамінайце. Я скажу дзесяць слоў, а вы павінны іх паўтарыць. Пачынаю: хлеб, стол, акно, трава, верабей, грыб, неба, вада, снег, дом. Паўтарыце.

Зубовіч пачаў бадзёра, але назваў пяць слоў, далей заблытаўся.

– Не хвалюйцеся. Пастарайцеся яшчэ ўспомніць.

Ён напружыў памяць і згадаў яшчэ два словы.

– Ну, для пачатку няблага. А зараз, – дакторка зірнула ў паперу перад ёй, – Браніслаў Антонавіч, новае заданне. Вось на гэтым аркушы 25 лічбаў, яны змешчаны ўразнабой. Я буду называць лічбы, а вы шукаць. Ну што, паехалі? – кабета гарэзліва зірнула на яго.

– Паехалі. З вамі хоць на край свету,– нечакана для сябе пажартаваў пацыент.

Першую лічбу дакторка назвала 35, затым было 47, потым – 28. Зубовіч здзівіўся, што гэта зусім не проста – хутка адшукаць патрэбныя лічбы. А дакторка не стамлялася называць новыя і новыя.

– Будзем лічыць, што вы справіліся з гэтым заданнем. А цяпер успомніце дзесяць слоў, якія я называла напачатку.

– Я пра іх забыўся. Я не думаў, што яны спатрэбяцца.

– Нічога страшнага. Гэта вам здаецца, што вы забыліся. Успомніце. Пачынайце.

І Зубовіч пачаў: хлеб, стол, віно… Гаварыў і сам дзівіўся: няўжо запомніў усе словы?

– Ну, восем слоў з дзесяці. Выдатна. Віншую вас!

– Можа, ужо хопіць? – пасмялеў Браніслаў.– Я сёння дужа рана ўстаў. Галава пачынае балець. Дарэчы, як вас завуць? А то вы пра мяне ўсё ведаеце, а я пра вас – нічога.

– Мяне завуць Алена Іосіфаўна. Я з Гродзеншчыны родам. А вы?

– Я таксама. Ёсць такі гарадок – Любча. Разбураны старадаўні замак там…

– А я са Слоніма, – узрадавалася дакторка. – Некалі, яшчэ школьніцай, ездзіла ў Любчу на экскурсію. Я дзесьці чытала, што замак аднаўляецца. Знайшліся энтузіясты…

– Так, гэта праўда. Рэстаўрацыя ідзе поўным ходам. Ёсць такое паданне: ехаў Міндоўг з войскам, пераправіўся цераз Нёман, закахаўся тут у дзяўчынупрыгажуню Марту, загадаў збудаваць замак, месца гэтае назваў Любеч. З цягам часу паселішча атрымала назоў Любча… А ведаеце, Алена Іосіфаўна, пра што я падумаў? Вы – псіхолаг. Адгадайце.

– А што тут гадаць? Вам захацелася запрасіць мяне ў Любчу…

– Існінная праўда! – смела ўсміхнуўся Зубовіч.

– Я згодна. Але ж вас не адпусціць жонка.

– На жаль, жонкі няма. Летась пахаваў…

– Прыміце мае спачуванні, – Алена дакранулася да яго рукі.– Я ўжо тры гады жыву адна. Дачка выйшла замуж. У яе свая кватэра. Гадуе двух сыноў… Так, а зараз да справы. Мы яшчэ не скончылі. Мне ж усё трэба будзе апісаць. Каб відаць было, на падставе чаго я раблю заключэнне. Дарэчы, заключэнне праз тыдзень будзе ў камісіі… Вось на гэтай карцінцы чатыры прадметы. Якія тры з іх можна аб'яднаць, а што не падыходзіць, так бы мовіць, лішняе. Тут – стол, стул, шафа і парасон.

– Ну, ясна, што стол, стул і шафа – гэта мэбля. А парасон з іншай оперы, – весела адказаў Зубовіч.

Але далей на карцінках былі малюнкі, сувязь між якімі адшукаць было цяжэй. Браніслаў некалькі разоў заблытаўся. Доктар Алена спакойна папраўляла, пазірала на яго лагодна, нават зрэдку ўсміхалася.

– Не спяшайцеся, Браніслаў Антонавіч. Думайце.

І ён думаў, але не пра сувязь між карцінкамі, а пра гэтую жанчыну, з якой нечакана звёў лёс і якая ўсё болей падабалася. Ён разгледзеў, што ў Алены прыгожыя вочы – шэра-блакітныя , нават зелянковыя, але стомленыя, з-пад светлашэрай блузкі выпіралі курганкі грудзей, якія раптам так заманулася пагладзіць. Прыгожая кабета, усё пры ёй, разважаў Зубовіч, не тое што сухапарая Жанна. А што далей? Няўжо яны зараз развітаюцца назаўсёды?

– Алена Іосіфаўна, можна пытанне? А то ўсё вы пытаецеся… Якія ў вас планы на сённяшні вечар?

– Планаў асаблівых няма. Магчыма, з'езджу да ўнукаў. А што вы хочаце прапанаваць?

– Ну, павячэраць у кавярні. Ці ў рэстаране… Пасядзелі б, пагаварылі пра жыццё-быццё…

– Мусіць, сёння не атрымаецца. Хіба што заўтра. А навошта нам кавярня? У мяне двухпакаёвая кватэра. Вось адрас…– Алена напісала на сіняй кардонцы, дзе быў рахунак банка, адрас, тэлефоны – кватэрны і сотавы.– Вось мае каардынаты. Даехаць можна трамваем, аўтобусам. Пасля пяці я дома.

Зубовіч слухаў і не верыў сваім вушам: яна згодна сустрэцца, нават запрашае дамоў. У яго соладка затахкала сэрца ад прадчування шчасця. Але тут жа прачнулася трывога: яна маладзейшая, пэўна гадоў на дзесяць, а то і на пятнаццаць… Заўтра а шостай вечара яны сустрэнуцца… Можна будзе ўсё ўдакладніць…

**4** І яны сустрэліся. Праз дзень з шампанскім, цукеркамі, букетам белых ружаў Браніслаў адшукаў патрэбны дом – стары блочны пяціпавярховік, так званая хрушчоўская будыніна. Кватэра была на чацвёртым паверсе. Ён падымаўся па прыступках, пафарбаваных блакітнай маслянай фарбай з чырвонымі кантамі, быццам па дыванку. Падымаўся марудна, сэрца тахкала ў грудзях, ледзь не выскоквала. І ён паўшчуваў сябе: куды ты лезеш, стары хрыч? Накупляў усяго на апошнія рублі… Жанчыне сумна, адзінока, вось і запрасіла, а мо хоча, каб вазіў на лецішча…

Думкі блыталіся ў галаве. Нават прамільгнула жаданне павярнуць назад, калі стаяў задыханы на пляцоўцы трэцяга паверха. А куды ж кветкі, шампанскае? Хіба што ўзрадаваць Жанну… Вышэй на лесвіцы пачуліся звонкія галасы, уніз спускаліся дзве дзяўчынкі ў паліняных джынсіках, з дзіркамі на вострых каленках.

– Здрасце! – павіталіся дзеўчынёхі і прашмыгнулі міма.

О, ужо прызналі за свайго, падумаў з усмешкаю Зубовіч і з весялейшым настроем патэпаў угору. Вось і лічба 33 на карычневым, дэрмаціне; уваход у тры астатнія кватэры зачынялі масіўныя металічныя дзверы. З хваляваннем націснуў на ружаватую кнопку званка. Пачуліся крокі, дзверы тут жа расчыніліся – на парозе стаяла Алена ў белай блузцы і сініх джынсах.

– Добры дзень у хату! – гучна павітаўся Зубовіч, паставіў на падлогу пакет з шампанскім і цукеркамі, затым уручыў букет. Ён хацеў пацалаваць Алене руку, але чамусьці пасаромеўся.

Гаспадыня панюхала ружы, заплюшчыла вочы:

– Які водар! Абалдзець! Вялікі вам дзякуй! – і цмокнула госця ў старанна паголеную шчаку.

Калі ранкам галіўся, углядаўся ў люстэрка, Зубовіч з прыемнасцю адзначыў, што ягоны буры ад вясновага загару твар – на лецішчы не хаваўся ад сонца – выглядае "па-старому молада" (гэтак аднойчы падбадзёрыла яго Жанна).

– Праходзьце. Можна не разувацца. Дываноў не люблю. Некалі самі паклалі паркет. Дык па ім прыемна ступіць нагою.

З вузкай вітальні ўвайшлі ў ладны светлы пакой. Злева былі расчыненыя дзверы кухні, направа – дзверы ў суседні пакой.

– Як для мяне адной, дык вялікая кватэра. Пакоі на два бакі. Гэта – зала. Уранні свеціць сонца сюды. Тут невялікі балкон. Па абедзе сонца заглядае ў спальню. – Алена адчыніла дзверы ў прадаўгаваты, нібы пенал, пакой, у якім стаяла шафа, шырокі ложак, падушкі, іх было ажно чатыры. "Навошта так многа?" – мільганула думка ў Зубовіча.

З гонарам гаспадыня паказала кветкі на балконе. У драўлянай, як малыя ночвы, скрынцы густа раслі кветкі: цёмна-сінія парасоны петуній, барвовыя прысадзістыя настуркі, высокія светла-ружовыя драбнаватыя кветкі львінага зева. Алена пахвалілася, што такая скрыначка ёсць толькі на ейным балконе: у астатніх згнілі, і новыя гаспадыні не заводзілі , а яна заказала праз домакіраўніцтва новую скрыначку.Кветак было шмат і на падаконніку.

– А зараз самае цікавае. Хадзіце за мной, – гаспадыня павяла на кухню.– Вось, глядзіце, якое дзіва! Учора архідэя расцвіла. Да вашага прыезду.

На высокай сцябліне, блізка ля паўметра, бялелі дзве вялікія кветкі – нібы селі на сцяблінку дзве мятлушкі, расхінулі белыя крылы, між імі жаўцеў песцік. Унізе лапушыліся вялікія, як у фікуса, лісты.

– Чароўная кветка! Проста цуд! Ёй можна доўга любавацца, – госць быў насамрэч здзіўлены і ўражаны. І не хаваў свайго здзіўлення.

І гэта вельмі падабалася Алене, яна апавядала далей з яшчэ большым захапленнем.

– А вось яшчэ тры бутоны. Яны неўзабаве расквітнеюць. Потым з'явяцца бутоны і на другой сцябліне, – гаспадыня сама радавалася, быццам дзіця, аж памаладзела тварам, пад акулярамі цёпла свяціліся валошкавыя вочы. – Архідэя патрабуе асаблівай увагі. Паліваць трэба раз у тыдзень. Наліць вады на дзве тры гадзіны. Вось голыя карані. Кветка нап'ецца вады, астатнюю трэба выліць…

Прыгадаліся сумненні на лесвічнай пляцоўцы. "Як добра, што я не пасаромеўся прыйсці, не павярнуў назад!" – думаў уражаны Браніслаў Зубовіч.

**5** Потым яны пілі шампанскае.

– А ведаеце, чым вы мяне перш-наперш зацікавілі? – гаспадыня гарэзліва зірнула на госця, гаварыць далей не спяшалася, чакала, каб ён выказаў сваю здагадку. Але Зубовіч маўчаў, баяўся ляпнуь штонебудзь недарэчнае, нібы гэта быў працяг псіхалагічнага тэста. – Дык вось, прызнаюся: зацікавіла імя. Майго дзеда звалі Браніслаў. Бацька – Іосіф Браніслававіч. І я падумала: раз вы маеце гэткае імя, значыць, мы з вамі, пэўна, заходнікі. Таму я ахвотна згадзілася сустрэцца. Давайце вып'ем, і я зраблю яшчэ адно прызнанне.

Яны чокнуліся, прыязна паглядзелі адно аднаму ў вочы. Зубовіч пакрысе асушыў бакал, і яму падалося, што ніколі не піў такога цудоўнага віна. І яму зрабілася так лёгка і хораша на душы, і так хацелася верыць, што гэтая сустрэча не апошняя і што працяг будзе.

– А прызнаюся вось у чым. Людзі – створэнні меркантыльныя. Як бы там ні было, што б там ні казалі пра высокія матэрыі, кожны думае перш-наперш пра сябе. Вось і я падумала: зяцю надакучыла мяне вазіць на лецішча. У ягонай маці таксама ёсць хата за горадам. І далёка, дзесьці пад Маладзечнам. А мне трэба ў Пухавіцкі раён . Ёсць электрычка. Але ад станцыі тры камэ. Калі без нашулак, дык можна прайсці, а з грузам надта не разгонішся. Даведку вы атрымаеце, мо калі мяне падкінеце на лецішча.

– З вялікім задавальненнем! У любы дзень. Я ж чалавек вольны.

– Дзякуй вам! Я рада, што не памылілася. Між іншым, у мяне ёсць яшчэ адно прызнанне. Але сёння не скажу. Хай будзе таямніца.

– Зато я магу прызнацца. Сёння яшчэ раз пераканаўся, што ўсё самае лепшае – нечакана. Калі нейкую падзею чакаеш, думаеш пра яе, фантазія намалюе столькі ўсялякіх варыянтаў, канечне ж, радасных, прыемных. А потым гэта адбудзецца і адчуваеш расчараванне, бо чакаў большага…

– Усе мы чакаем большага ад жыцця. І гэта натуральна. Жыццё адно. У кожнага сваё. На чарнавік яго не пражывеш.

– А ведаеце, Алена… А можна на "ты"? Раз п'ём шампанскае…

– Канечне, можна.– Алена падхапілася. – Давайце гэта зафіксуем і вып'ем на брудэршафт.

Выпілі, моцна пацалаваліся, у Зубовіча аж галава закруцілася.

– Мне здаецца, Алена… Ёсць такое прадчуванне, што ў нас з вамі… Не, у мяне з табой яшчэ будзе многа радасці. Прабач, за такую грэшную думку.

– Дай Божа чутае бачыць! А грэшнага тут нічога няма. Як людзі кажуць: Ігнат не вінават, і Аўгіння нявінна, вінавата хата, што пусціла Ігната, – залівіста засмяялася Алена.– Ой, даўно так не смяялася! Самы вялікі дэфіцыт на свеце – гэта дэфіцыт радасці. Адсюль пачынаюцца псіхічныя расстройствы. І з кожным годам іх усё болей. Навукоўцы даводзяць, што да 2020-га дэпрэсія, іншыя псіхічныя хваробы выйдуць на першае месца ў свеце.

– І што ж нам рабіць? Дзе выйсце? – размова насамрэч зацікавіла Зубовіча.

– Прафілактыка. Фізкультура. Здаровы лад жыцця. Трэба, каб у кожнай паліклініцы быў псіхатэрапеўт. Каб чалавек не баяўся да яго схадзіць. І яшчэ. Калі псіхічна хворы чалавек здзейсніць злачынства, адразу гвалт: загнаць яго ў псіхушку, за калючы дрот, і не выпускаць! Але ж і здаровыя людзі робяць злачынствы… А псіхічна хворых трэба лячыць. Я ўсё болей пераконваюся, што свет выратуе любоў. Любоў да жыцця, да жонкі, да маці, да дзяцей сваіх… Любоў да Бацькаўшчыны, да сваіх каранёў. Да роднай мовы. Любоў да прыроды, да ўсяго жывога… Любоў да сваёй справы, да сваёй прафесіі. Маці мая казала: калі што робіш, дык рабі з любоўю…

– Ну, Алена, гэта цэлы Гімн любові! Дарэчы, я цалкам згодны.

– Дзякуй! Мы яшчэ пра гэта пагаворым. Значыць, у суботу сустракаемся.

Неўзабаве Зубовіч спускаўся з чацвёртага паверха. Гэта быў ужо іншы чалавек, і прыступкі, лесвічныя пляцоўкі – іншыя, яны падаліся прыгожа пафарбаванымі, яны радавалі вока і вялі не ўніз, а ўгору, да святла, да жаданага шчасця.

І прадчуванне спраўдзілася.

На лецішчы Зубовіч са смакам капаў градку, Алена рабіла лункі, удваіх насілі вёдрамі кампост, садзілі клубні бульбы з тоўстымі парасткамі.

– Ты – малайчына. Добрае насенне падрыхтавала, – хваліў ён гаспадыню.

– Бульбу трэ было пасадзіць тыдзень таму. Але зяць не змог мяне прывезці.

– Ну, яшчэ не позна. Вырасце. Я градку пасадзіў напрыканцы красавіка. Так што будзем спачатку есці маю бульбу, а потым тваю, – весела мовіў Браніслаў.

– Думаю, што твая будзе смачнейшая. Чужы і хлеб – гасцінец, – з усмешкаю адказала Алена. – Дый сонца набярэцца болей. Крухмалу ранняя бульба назапасіць болей.

Алена расчырванелася, вочы лагодна паблісквалі пад акулярамі, калі глядзела на свайго нядаўняга пацыента. А Браніслаў быў на сёмым небе ад радасці і ў глыбіні душы не мог даць веры, што піў шампанскае і цалаваўся з гэтай жанчынай, а сёння будзе з ёй начаваць на лецішчы. І, можа, не толькі цалавацца… А колькі дзён таму яны былі незнаёмыя. Хіба гэта не дзіва?! Але да радасных думак прымешвалася і трывога: даўно не займаўся любоўю, старэйшы за Алену на трынаццаць гадоў. Гэты чортаў тузін яго асабліва трывожыў.

Пасля вячэры яны сядзелі на верандзе, невялікай, утульнай. Вясновае сонца нагрэла яе за дзень, але Браніслаў адчуваў нейкі холад ад шчыльнай фарбаванай падлогі, прыхінуўся да Алены.

– Нешта ў цябе рукі халодныя? Замардавала я работай. Пойдзем адпачываць. А для сугрэву вып'ем трохі вінца.

*(Заканчэнне на 8-й стар.)*

### ДАСЬЕ



***Левановіч Леанід*** *(таксама Лявонаў Леанід), нарадзіўся 14.09.1938 г. у вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна Магілеўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў культасветнавучальню (1956). Працаваў ва ўстановах культуры Дзяржынскага і Касцюковіцкага раёнаў (1956-1958). У 1957 г. паступіў на завочнае аддзяленне факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Служыў на Балтыйскім флоце (1958-1961). Пасля дэмабілізацыі перавёўся на стацыянар і скончыў універсітэт у 1963 г.*

*Працаваў у рэспубліканскіх газетах «Знамя юности», «Сельская газета», «Літаратура і мастацтва» (1963-1971). У 1971-1974 гг. - рэдактар аддзела мастацтва і крытыкі часопіса «Неман». З 1974 г. - адказны сакратар, з 1975 г. - рэдактар аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя». У 1980-1982 гг. - галоўны рэдактар літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. З 1984 г. - старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сябра СП СССР з 1975 г.Выступае ў друку з 1963 г.*

*Аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі» (1971), «Зялёны трохкутнік» (1973), зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Мадонна з кветкаю» (1976), «Якар надзеі» (1979), «Валанцёр свабоды» (1983), раманаў «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), зборніка публіцыстыкі «Хлеб і мужнасць» (1987).Напісаў сцэнарый дакументальнага фільма «Дом майстроў» (пастаўлены ў 1973); аднаактовую п'есу «Ці любіце вы грэчку?» (1972), драму «Пасля разводу» (1980, пастаўлена на радыё ў 1981).*

АПАВЯДАННЕ

# Тэст

*(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.)*

Пілі паўсухое белае віно White queen – “Белая каралева”, прыемнае, лёгкае пітво, ад якога ў Браніслава закруцілася галава. Алена ўключыла радыё – ішла віншавальная перадача, блізкія, родзічы, сябры віншавалі імяніннікаў, прасілі выканаць песню. Часцей гучала сучасная расійская папса, рэдка прасілі беларускую песню. Раптам пачуўся прыемны барытон:

*Первый раз я любил*
*и от счастья был глуп.*
*Первый раз пригубил*
*дикий мед твоих губ…*

– Цудоўная песня. І словы, і мелодыя… – пачала Алена.

– І голас выдатны, – падхапіў Браніслаў. – Малініна я паважаю.

– Мая маці вельмі любіла яго слухаць. Яна была выкладчыцай музыкі і спеваў. І звалі яе Іда Львоўна. Як ты ставішся да яўрэяў?

– Нармалёва. З павагай. Мой прадзед – местачковы яўрэй. У Любчы раней жыло шмат яўрэяў. У любым райцэнтры яны жылі, працавалі, мелі вялікія сем’і. З суседзямі ладзілі…

– Я рада, што мы з табой глядзім у адным напрамку. А давай патанцуем. Я сто гадоў не танцавала на сваім лецішчы. Адно ў зямлі калупаюся. Хіба ж гэта жыццё? – паднялася Алена, узяла яго за руку, паціснула далонь. – Ну во, і рукі адагрэліся, – прыхінулася мацней.

Музыка скончылася, але яны працягвалі танчыць пад нячутную мелодыю позняга кахання. Браніслаў раптам адчуў, як ім авалодвае даўно забытае жаданне блізкасці з гэтай мілай жанчынай.

– Я хачу цябе, – ціха, нібы некага баючыся, прашаптаў ён.

Алена нічога не адказала, быццам не пачула ці не паверыла пачутаму, моўчкі пацалавала Браніслава ў вусны, пачала павольна, неяк нерашуча, расшпільваць гузікі ягонай кашулі…

Стомленыя, разгарачаныя, яны ляжалі ў ложку. У шырокае акно пакоя таямніча свяціў амаль поўны месяц, быццам хацеў падглядзець, што тут робіцца.

– Вось цяпер я магу прызнацца… Помніш, я сказала, што маю трэцяе прызнанне, але хай яно будзе таемным. Дык вось, калі ты прапанаваў сустрэцца, у мяне адразу мільганула думка: чаго ён хоча, гэты дзед? Хранічны пенсіянер. Няўжо ён нешта можа ў ложку?..

– Аказваецца, хранічны пенсіянер нешта можа, – задаволена зарагатаў Браніслаў. – Гэта твая заслуга. Абудзіла ўва мне спячага льва. Цяпер ты мая каралева!

– Мой кароль – малайчына! Не сцягаўся, не спіўся. Усё помніш, усё можаш, – шчасліва ўсміхалася Алена. – Прыгадаўся стары анекдот. З вечара муж сабраўся на рыбалку, падрыхтаваў вуды, усё што трэба. Ранічкай падняўся – і на аўтобус. А тут дождж, халодны вецер. Аўтобуса няма. Чакаў ён чакаў, адубеў ад холада. Павярнуў дамоў, распрануўся і цішком да жонкі. Тая соладка пацягнулася. “Што на дварэ? Непагадзь?” – “Угу!” – “А мой жа дурань на рыбалку папёрся!”

Браніслаў зарагатаў яшчэ мацней. Ён аж заходзіўся ад смеху, Алена таксама звонка, молада смяялася, а потым закрыла ягоны рот гарачым пацалункам.

– Ну, ты гумарыстка, мая мілая. Якое шчасце, што мы сустрэліся!

– Тэст вінаваты… Прайшоў ты яго на выдатна… Не ведаю, як табе жылося, а я ў шчасці не купалася… Муж выпіваў. Ён таксама інжынер, працаваў на заводзе. У маладыя гады думаў пра кар’еру. Быў майстрам цэха, потым начальнікам. А як пачаў піць – вытурылі. Рыбалка, сябры, застоллі… Напрыканцы жыцця распіўся на сабачую пугу. Як магла, змагалася, але гены пальцам не запхнеш. Бацька яго піў, гуляў, жонак мяняў… Так што мой дарагі паўгода не дажыў да пенсіі. Вось такі сумны аповед, – Алена памаўчала, трасянула галавой, нібы адганяла прэч сумныя ўспаміны – Ат, давай пра нас з табой. У мяне ёсць прапанова. Адгадай якая…

– Выпіць за каханне?

– Так, мой любенькі. Выпіць за каханне і за супольнае жыццё.

МАЗАІКА

## Беларускія паралімпійцы перавыканалі план больш як у два разы

*Яны заваявалі на Гульнях у Пхёнчхане 12 узнагарод (4 залатыя, 4 сярэбраныя, 4 бронзавыя) і размясціліся на 8-м радку медальнага заліку.*

У **Святланы Сахоненка** 4 узнагароды ў спаборніцтвах сярод спартсменак з парушэннямі зроку – 3 залатыя (у лыжным спрынце на 1,5 км класічным стылем, у лыжнай гонцы на 15 км вольным стылем, у лыжнай гонцы на 7,5 км класічным стылем) і 1 бронзавы (біятлонны спрынт на 6 км).

Юрый Голуб заваяваў 4 медалі ў спаборніцтвах сярод спартсменаў з парушэннямі зроку – 1 золата (у біятлоннай гонцы на 12,5 км), 2 сярэбраныя (у біятлонным спрынце на 7,5 км і ў лыжнай гонцы на 20 км), 1 бронзавы (лыжная гонка на 10 км класічным стылем). На трасе Юрыю дапамагаў вядучы Дзмітрый Будзіловіч, інфармуе tut.by.

Капітан беларускіх паралімпійцаў у Пхёнчхане **Дзмітрый Лобан** *(на фота)* заваяваў 2 медалі ў спаборніцтвах з парушэннямі апорна-рухальнага апарату. У яго актыве 2 сярэбраныя (у біятлонным спрынце на 7,5 км і ў лыжным спрынце на 1,1 км).

**Лідзія Графеева** выйграла 2 узнагароды ў спаборніцтвах сярод спартсменак з парушэннямі апорна-рухальнага апарату, на яе рахунку 2 бронзы (у біятлонным спрынце на 6 км і ў біятлоннай гонцы на 12,5 км).

На мінулай Паралімпіядзе ў Сочы-2014 беларускія паралімпійцы заваявалі 3 бронзавыя ўзнагароды.



Перад Гульнямі ў Пхёнчхане кіраўнік Паралімпійскага камітэта Беларусі Алег Шэпель нацэльваў каманду на заваяванне 5 медалёў.

## «Крумкачы» праляцелі

*Учора стала вядома, што прыватная футбольная каманда пакідае вышэйшую лігу.*

Нагадаем, што днямі Камітэт па статусе і трансферах футбалістаў Асацыяцыі “Беларуская федэрацыя футбола” АБФФ пастанавіў “за незабеспячэнне яўкі прадстаўніка клуба накласці на старшыню праўлення ТАА «ФК “Крумкачы” Дзяніса Шунто штраф у памеры 20 базавых велічынь (490 рублёў)” і “ў сувязі з сістэматычным невыкананнем рашэнняў камітэта зняць з ТАА «ФК “Крумкачы” яшчэ тры ачкі”.

Такім чынам, з улікам папярэдніх санкцый у «Крумкачоў» стала ўжо мінус 5 балаў на старце любога турніру, у якім клуб будзе ўдзельнічаць.

Дакументы на ліцэнзаванне, якія клуб падаваў, у федэрацыі не былі прыняты, але гэтае рашэнне вырашылі аспрэчыць. 19 сакавіка апеляцыя была разгледжана арбітражам Беларускай федэрацыі футбола, і той адмовіў “Крумкачам”. Клуб пакідае вышэйшую лігу…

## Ведай нашых!

*Беларус Ілля Івашка выйграў тэнісны турнір у кітайскім Шэньчжэні (прызавы фонд 75 тысяч долараў).*

У мінулую нядзелю ў вырашальным паядынку **Івашка,** які займае 148-е месца ў сусветным рэйтынгу, перамог кітайца **Чжан Цзэ** (305) – **6:4, 6:2**.



## Новыя вышыні Ганчарэнкі

*Беларускі трэнер вывеў расійскую каманду ў 1/4 фіналу Лігі Еўропы па футболе.*

Паводле вынікаў жараб’ёўкі, маскоўскі ЦСКА, які ўзначальвае беларус Віктар Ганчарэнка, згуляе на гэтай стадыі з лонданскім «Арсеналам».



У іншых парах сустрэнуцца: “Лейпцыг” (Германія) – “Марсель” (Францыя), “Атлетыка” (Іспанія) – “Спортынг” (Партугалія), “Лацыа” (Італія) – “Зальцбург” (Аўстрыя).

Матчы пройдуць 5 і 12 красавіка.

У 1/4 Лігі чэмпіёнаў згуляюць: «Барселона» (Іспанія) – «Рома» (Італія), «Севілья» (Іспанія) – «Баварыя» (Германія), «Ювентус» (Італія) – «Рэал» (Іспанія), «Ліверпуль» (Англія) – «Манчэстэр Сіці» (Англія).

Чвэрцьфіналы пройдуць 3–4 і 10–11 красавіка.




РАСТЕНИЯ ЛЕЧАТ

## Появились мешки под глазами

Трава мяты перечной содержит эфирные масла, обладающие противовоспалительным и болеутоляющим действием, они уменьшают зуд, расширяют сосуды сердца, повышают аппетит. Мята входит в состав валидола, корвалола, валокордина и капель Зеленина. Мятное масло втирают как болеутоляющее при ревматизме.

При бессоннице, стрессах чудным образом помогает настойка. Сделать ее несложно: 100 г листьев мяты настоять на 200 г водки 5–7 дней. При нарушениях сна принимают 25–30 капель на ночь. При повышенной раздражительности, стрессах, резких колебаниях настроения пьют по 15–20 капель настойки 3 раза в день.

Вместо настойки можно использовать отвар. На слабом огне кипятят 100 г мяты в 300 г воды в течение 15 минут. Его пьют уже по 50 г 3 раза в день. Хранят в холодильнике не более двух дней, безжалостно выливая остатки и готовя новую порцию. Отвар можно заморозить и протирать лицо утром и вечером кубиками мятного льда. Уже через 10–12 дней на себя будет приятнее смотреть в зеркало.

Кстати, для женщин бальзаковского возраста мята – подарок природы. Если вокруг глаз забрезжили морщинки и не дай бог появились мешки, она поможет отогнать нежелательные признаки возраста. Для этого измельчают листья мяты буквально в кашицу и затем растирают ее с теплым растительным маслом. Эту пасту, пока она не остыла, утром на 15 минут наносят вокруг глаз, затем смывают водой.

Запах мяты благотворно влияет на детский сон. Летом в изголовье кровати можно повесить пучок свежей мяты. Для зимы сушеной, растертой в порошок травой набивают мешочек из хлопчатобумажной ткани размером 10х10 сантиметров. А если после застолья вам не хочется привлекать внимание работников ГАИ, выпейте немного меда, сваренного с мятой.

СКАЖИТЕ, ПОЖАЛУЙСТА…

## Без урожая не останетесь

***Зима в разгаре, до весны еще далеко, а многие дачники даже в декабре уже стали готовиться к посевной: закупают семена, удобрения, средства защиты растений, ищут в газетах и журналах, не говоря о специальной литературе, ответы на волнующие их вопросы. Меня, например, интересует судьба будущего урожая картофеля – что-то он у меня не очень-то высокий. Возможно, я не уделяю должного внимания семенам? Что, на ваш взгляд, важно учитывать при отборе их на посадку?***

**Василий Болотный, Гомель.**

– Нужно отбирать клубни сортов не менее трех групп спелости: ранней, среднеранней или среднеспелой, поздней или среднепоздней. Только в этом случае в любой год вы не останетесь без урожая. Если какой-то сорт вас подведет – другие выручат.

**– Что, на ваш взгляд, важно при отборе клубней на посадку?**

– Берите клубни не от разных кустов, а все понравившееся гнездо, независимо от размера клубней.

**– И даже мелкие?**

– В мелких меньше вирусной инфекции. Пусть они на следующий год не дадут большого урожая, но от них получите более чистый семенной материал, который будет хорошо храниться. Можете также посадить в одно «гнездо» два-три мелких клубня, так делают многие дачники.

**– Что нужно учитывать при сохранности картофеля?**

– Огромное значение имеет лечебный период после уборки. Сразу с участка нельзя засыпать картофель в подвал или другое хранилище, где температура 5–7 градусов. Там затруднено образование пробковой ткани, и ранки, полученные во время уборки, не затягиваются. Часто при послеуборочной подработке можно обнаружить бактериоз на тех клубнях, которые имеют срезы или раздавлены, повреждены. Им-то как раз очень нужен лечебный период, лучше трехнедельный. Семенной картофель советуем держать под навесом, продовольственный – в темном сарае. В это время клубни хорошо проветриваются, испаряется лишняя влага, срезы пробковеют, кожура укрепляется.

**– Какой должна быть температура в лечебный период?**

– Наиболее благоприятна температура 18–23 градуса. Через три недели ее снижают, и картофель размещают в более прохладном помещении. Нежелательны резкие перепады температуры. Это способствует прерыванию периода покоя.



ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Рассада у окна

Много ли рассады вырастишь на подоконнике? А ее хотелось бы иметь побольше, ведь работающим людям весной приходится оставлять без присмотра свои посадки и ухаживать за ними только в выходные дни.

Часть рассады может погибнуть, погода преподносит сюрпризы: приедешь на участок, а там что-то засохло, что-то подмерзло…

Увеличить посевную площадь в квартире, оказывается, не так уж сложно. Вплотную к окну ставлю стол и еще сооружаю нечто вроде второго этажа. По краям подоконника закрепляю подпорки и кладу на них широкую доску. Получаются два подоконника вместо одного. При желании можно сделать и три этажа. Свет падает в квартиру не сверху вниз, а под углом, поэтому верхние посадки не затеняют нижние. Количество рассады увеличивается, а качество практически не страдает.

И еще одна беда преследует горожан: как быть, если окна выходят на север? Большая часть света пропадает зря. Но ведь лучи солнца, прошедшие мимо растения, совсем несложно развернуть обратно. Достаточно лишь поставить на их пути зеркало, и хрупкий росточек будет получать в два раза больше света. Еще проще вместо зеркала воспользоваться фольгой. Несколько полос фольги – и вот уже росточки выпрямляются, листья становятся ярко-зелеными, а стебель крепче.

**Раиса ОСТАПЧУК.**

*Пинск.*



ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Вырубать не спешите

***Что случилось с моей облепихой – не понимаю. Побеги начали коробиться, искривляться. На ягодах появились какие-то водянистые пятна. Не могу понять, что это за болезнь и какие меры борьбы нужно применить?***

**Леонид КРАСОВСКИЙ.**

*Петриковский район.*

Скорее всего, это фузариозное увядание. Листья буреют и скручиваются, плоды сморщиваются и засыхают. Ветви в конце концов гибнут, так как проводящие сосуды растения закупориваются нитями-гифами гриба-возбудителя болезни.

В дождливую осень или весной на увядающих ветвях (и даже на ягодах) образуется розовато-белый пушистый налет, состоящий из миллионов серповидных спор фузариума.

Усыхающие и больные ветви (на срезах их хорошо видно бурое кольцо) вырезайте до здоровой ткани и сжигайте! Места среза сразу дезинфицируйте 1%-ным медным купоросом или натрите щавелем. Вырубать все дерево сразу не надо.

В августе хорошо видны плоды, пораженные эндомикозом. Ягоды обесцвечиваются, становятся дряблыми, наполняются беловато-серой слизью, часть кожицы лопается. Возбудитель сохраняется и зимует в шкурках пораженных плодов, поэтому их надо собирать еще до уборки основного урожая и сжигать. Болезнь развивается и на созревающих ягодах, поэтому «химию» применять нельзя.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.03.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 928.